№ 3 (697) 19 студзеня 2011 www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Залатая бурбалка Пракаповіча

Старонка 4



## Праўдай па хлусні: новы фільм аб Плошчы

Старонка 5

### У НУМАРЫ

**«Жыць трэба па сродках»**
Лукашэнка прызнаў, што крэдытаў больш не атрымае. **Старонка 2.**

**Дэвід Крэмер: «Толькі санкцыі!»**
Інтэрв'ю. **Старонка 2.**

**Мінскія адвакаты адмовіліся караць калег**
Грамадства ціха пратэстуе. **Старонка 2.**

**«Усенароднаабраны» Туніса збег з краіны**
А паўтара года таму набіраў на выбарах 89%. **Старонка 3.**

**Памяці Віталя Тараса**
Памёр шматгадовы аўтар «НН». **Старонка 13.**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

# Жонка за мужа

**Улады прэсуюць сваякоў кандыдатаў у прэзідэнты. Старонка 7.**

Мілана Міхалевіч з малодшай дачкой.

# Ва «ўрад народнага выратавання» ўвайшлі нават мёртвыя

## У «Советской Белоруссіі» апублікавана фальшыўка.

За спіс «урада з Плошчы» выдалі чэрвеньскі спіс кандыдатаў у ценевы ўрад апазіцыі па версіі БХД, на якім перабілі шапку. Сярод іншых у ім фігуруе акадэмік Нікітчанка, які ў снежні ўжо быў нябожчыкам.

Толькі пікейныя камізэлькі памятаюць вось такі артыкул: «Альтэрнатыўны ўрад заслухаў прэзідэнтаў». Між тым, ён з'явіўся на сайце «Нашай Нівы»17 чэрвеня, а ў папяровай версіі, у скарочаным выглядзе — 23 чэрвеня.

Мы яго перадрукоўваем сёння. У канцы яго маецца спіс. А побач даём копію «ўрада нацыянальнага выратавання» па версіі «СаўБеліі». Розніца мінімальная: відаць, маем справу з нейкім непісьменным чарнавіком «праекта ўрада», у які былі ўнесеныя пэўныя змены перад прэзентацыяй. («Наша Ніва» апублікавала тады дадзены рэпартаж з прэзентацыі.)

Праект ценевага ўрада апазіцыі быў самазваны, дарэчы. Нагадаю, тады «прэтэндэнтаў» у яго не пыталіся згоды, і гэта выклікала вялікія кпіны з іх боку, а таксама жарцікі: о, БХД уключыла ў спіс усіх, каго ведае. Але як ён мог ператварыцца ў частку плана «перавароту»?

Ператварыцца ён мог шляхам наўмысна выкананага калажа — заменай шапкі.

Або першым варыянтам назвы для будучага «ценевага ўрада» была гэткая патэтычная: «урад народнага выратавання».

Або спіс без шапкі, знойдзены пры вобшуку ў офісе БХД, выклікаў такую інтэрпрэтацыю. Ну, у апошнім выпадку, як кажуць, ад страху вочы вялікія.

І як там наконт публікацыі неправеранай інфармацыі, спадары Якубовіч і Праляскоўскі?

Вось ён, узровень «кампрамату-2011».

Як шмат вады сплыло з таго часу... Такім чынам, сайт «Нашай Нівы», 17 чэрвеня:

**Працяг на старонцы 8.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

# Улады прыдумалі спосаб забіраць кватэры ў старых

## Дзяржаўныя СМІ рэкламуюць рэнтныя адносіны.

Перад Новым годам, падчас наведвання дома-інтэрната для ветэранаў вайны і працы «Світанак» Аляксандр Лукашэнка адобрыў стварэнне новай сацыяльнай схемы, так званых рэнтных адносінаў з дзяржавай.

Рэнтныя адносіны існавалі ў Беларусі і раней. Самотная бабуля можа адпісаць кватэру свайму суседу, а той абавяжацца даглядаць пенсіянерку. А калі бабулі не стане, атрымае кватэру.

Згодна з «Грамадзянскім кодэксам», заключацца рэнтная дамова можа толькі між пенсіянерам і фізічнымі асобамі. Цяпер дзяржава вырашыла фізасобаў замяніць сабой: увесці манаполію на заключэнне рэнтных адносінаў. Дзяржаўныя СМІ з уласцівай ім бадзёрасцю рэкламуюць такое ноу-хау.

«Сціплая аднапакаёвая кватэра ў сталічным 9-павярховіку. Нізкія столі і вузкая лесвічная клетка. Усё самае дарагое за 75 гадоў жыцця Таісія Васільеўна змагла змясціць на трыццаці трох квадратных метрах. Выйшаўшы на пенсію, былы інжынер засталася адзін на адзін з уласнай жылплошчай. Знайсці выхад з жыллёвага ступару дапамаглі сацработнікі: у абмен на старую кватэру яны прапанавалі састарэлай жанчыне пажыццёва грашовую дапамогу, а таксама магчымасць пераехаць у пакой у спецыяльным інтэрнаце...», — такі рэпартаж паказалі на тэлеканале СТВ.

**Працяг на старонцы 6.**

# Мінскія адвакаты адмовіліся караць сваіх калегаў

Нягледзячы на прэтэнзіі Мінюста.

Міністэрства юстыцыі накіравала прадстаўленні на чатырох адвакатаў, якія займаюцца справамі абвінавачаных у справе аб масавых беспарадках 19 снежня.

Вядома, што адным з іх быў Павел Сапелка, які абараняе экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

Падставай для звароту Мінюста стала публічнае абурэнне адкаватаў, якія не могуць патрапіць да сваіх падабаронных, і крытыка на адрас судовай сістэмы.

Нагадаем, што экс-кандыдатаў у прэзідэнты Міколу Статкевіча, Андрэя Саннікава, Алеся Міхалевіча, Уладзіміра Някляева іх адкаваты не бачылі з 29—30 снежня. Тое самае і з іншымі абвінавачанымі па справе аб масавых беспарадках.

Чыноўнікі запатрабавалі прыцягнуць адвакатаў да дысцыплінарнай адказнасці за публічныя выказванні.

Але, як паведаміў «Нашай Ніве» старшыня Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Аляксандр Пыльчанка, калегія не ўбачыла фактаў парушэнняў у дзейнасці сваіх калегаў.

Таксама чыноўнікі выказаліся аб немэтазгоднасці знаходжання Паўла Сапелкі ў складзе прэзідыума Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Але адпаведнага прад'яўлення ў калегію не паступіла. Таму калегі таксама не разглядалі гэтага пытання.

Адмовіць Мінюсту на яго ўльтыматыўнае патрабаванне санкцый для адвакатаў было няпростым рашэннем. Калегі адвакатаў праявілі грамадзянскую мужнасць.

**Сяргей Макарэвіч**



Адвакат Сапелка бароніць Андрэя Саннікава.

# Дэвід Крэмер: «Толькі санкцыі!»

Былы намеснік дзяржсакратара ЗША адказаў на пытанні «Нашай Нівы».



**«НН»: Спадар Дэвід, як Вы лічыце, ці могуць санкцыі быць эфектыўнымі ў якасці сродку ўздзеяння на Лукашэнку?**

**ДК:** Абсалютна. Яны спрацавалі ў 2008 годзе, калі ЗША і Еўрасаюз разам увялі санкцыі, якія прымусілі Лукашэнку выпусціць палітычных зняволеных. Яны з'яўляюцца адзіным спосабам барацьбы з Лукашэнкам. Палітыка «ўцягвання ў дыялог» была цалкам правальнай.

**«НН»: Па-Вашаму, Еўрапейскі Саюз пойдзе на эканамічныя ці палітычныя санкцыі?**

**ДК:** Санкцыі будуць працаваць, толькі калі ЗША і Еўрасаюз будуць прымаць іх разам. ЕС прыпыніў забарону на выдачу віз у кастрычніку 2008 года. Варта зноў увесці яе і распаўсюдзіць яе дзеянне на людзей, якія ўдзельнічаюць у апошніх парушэннях правоў чалавека.

**«НН»: Што Вы думаеце пра гаворкі аб эмбарга на экспарт беларускіх нафтапрадуктаў?**

**ДК:** Гэта яшчэ адзін варыянт, які павінен быць прааналізаваны. Але галоўнае — прыняць мэтанакіраваныя меры, якія прадугледжваюць пакаранне рэжыму і адначасова падтрымліваюць грамадзянскую супольнасць і апазіцыю. Змяншэнне альбо ўвогуле адмена збораў за візы, каб беларусы маглі падарожнічаць у Еўрасаюз, таксама важнае.

**ВН**

**Дэвід Крэмер**
кіраўнік міжнароднай даследчай арганізацыі Freedom House. Палітык тры гады працаваў намеснікам кіраўніцы дзярждэпартамента ЗША Кандалізы Райс і курыраваў адносіны з Беларуссю, Расіяй, Малдовай і Украінай.

# «Жыць трэба па сродках»

Лукашэнка прызнаў, што крэдытаў больш не атрымае.

«Жыць трэба па сродках. Ніякага друкавання грошай, ніякіх пазык, хопіць, — заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па пытаннях развіцця беларускай эканомікі, перадае карэспандэнт БелТА. — З гэтым трэба развітацца. Гэта правільны падыход, ён не падлягае якойсьці спрэчцы», — падкрэсліў ён.

А дзе ж браць грошы, якія раней браліся з запазычванняў? Беларусь гатова прадаць да 25% акцый ААТ «Беларуськалій».

«Мы прапанавалі, і гэта ўжо не сакрэт, «Беларуськалій». Мы сказалі, што больш за 25% мы не прадамо. Мы назвалі цану», — сказаў Лукашэнка.

Ён пахваліўся, што сёння існуе «шалёны попыт на асобныя беларускія прадпрыемствы». «За гэта мы можам атрымаць $ 25–30 млрд. А калі праямо гэтыя $ 30 млрд, тады што прадаваць будзем?» — перажывае Аляксандр Лукашэнка.

За апошнія пяць гадоў валавая замежная запазычанасць Беларусі дасягнула прыкладна 27 мільярдаў даляраў, або небяспечнай рысы 50% ад ВУП. На гора, пагаршэнне адносінаў з Захадам зрабіла немагчымым атрыманне танных крэдытаў ад МВФ. А запазычванне грошай пад дзяржаўныя аблігацыі каштуе задорага.

Імаверна, Беларусь будзе здабываць грошы шляхам прыватызацыі дзяржаўных актываў. Інакш давялося б зацягнуць паясы ўсім. Але ў дадзенай палітычнай сітуацыі ў Беларусь прыйдуць толькі тыя купцы, якія будуць адчуваць сябе бяспечнымі. Тыповы заходні інвестар Беларусі цураецца: калі ў краіне могуць пасадзіць у турму сем кандыдатаў у прэзідэнты, то заўтра ў такой краіне могуць лёгкім рухам рукі забраць твае 25% акцый назад.

**Сяргей Гезгала**

## Сціслa

**• У 2011 г. БРСМ атрымае рэкорднае фінансаванне — 20,5 млрд руб.** Гэта 98% усіх грошай, прызначаных на моладзевую палітыку ў краіне.

**• 19 студзеня праваслаўныя святкуюць Вадохрышча.** На гэтае свята асвячаюць ваду і купаюцца ў ярдані.

**• Беларусь спыніла пастаўкі дызпаліва ў Еўропу.** Аднак пастаўкі нафты па нафтаправодзе «Дружба» працягваюцца. Звычайна Беларусь штомесяц пастаўляла ў ЕС каля 200 тысяч тон салярκі. Аднак цяпер Беларусь ашчаджае, бо ў пачатку 2011 года Расія спыніла пастаўкі нафты ў Беларусь.

**• Жыхар Турава галадоўкай дабіваецца права на працу.** Міхаіл Козел з Жыткавіцкага раёна пратэстуе ад 14 студзеня. Хлопец арганізоўваў апазіцыю там, на Палессі. Стварыў незалежную газетку «Вольныя навіны». Вось яго і ўнеслі ў чорныя спісы мясцовыя дурні ў адміністрацыі. Кажа, што яго не бяруць нават на ферму. Кіраўнікі прадпрыемстваў матывуюць адмову немагчымасцю ўзгадніць кандыдатуру Козела ў ідэалагічным аддзеле райвыканкама.

**• Мясніковіч запатрабаваў навесці парадак у інтэрнэт-гандлі.** Новы прэм'ер-міністр даручыў увесці новыя нормы, матывуючы іх патрэбай абароны спажыўцоў. Беларусь перажывае бум інтэрнэт-гандлю. Сярэднямесячны абарот інтэрнэт-крамаў ацэньваецца на 30 млрд рублёў.

**• У Брэсце пачала раставаць коўзанка за паўмільёна еўра.** Коўзанка была залітая паміж Палацам водных відаў спорту і Лядовым палацам. Бізнэсовец з Германіі інвеставаў больш за 500 тыс. еўра на яе будаўніцтва. Думалі, што коўзанка не будзе баяцца плюсавых тэмператур, але яна растае.

**• Кардынал Свёнтак пачаў хадзіць.** Нагадаем, 19 мая 96-гадовы ксёндз-кардынал зламаў шыйку левага сцягна. Кардыналу зрабілі дзве аперацыі: адну ў Мінску, другую — у Люблінe. З таго часу іерарх праходзіў у Польшчы рэабілітацыю. 11 студзеня Свёнтак вярнуўся ў Пінск. Кардынал самастойна ходзіць.

**СМ**

### Самае чытанае на nn.by за 12—18 студзеня

- Праўдай па хлусні. Новы фільм аб Плошчы цалкам абвяргае версію БТ
- Ва «ўрад народнага выратавання» ўваходзілі нават мёртвыя. У «СБ» апублікавана фальшыўка
- Санкцыі: няўжо Еўропа ўдарыць па беларускай нафтахіміі?
- Экспартная версія МЗС: за плошчай стаяла Расія, у Лукашэнкі не вытрымалі нервы
- Міхалевіч з турмы званіў жонцы, каб засцерагчы яе ад выступаў у Еўропе. Мілана: Ён гаварыў не сваімі словамі
- Жарт: За рэдакцыяй «Нашай Нівы» сочаць
- Жэстачайшэ: Севярынец «заклікае» закідваць АМОН камянямі
- Напісана пад дыктоўку? Ад вязняў Амерыканкі пачалі прыходзіць лісты

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перасказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Асаблівыя падзякі Аляксандру Ч., які цяпер у Баку, і Валянціне Л. з Драздоў (Мінск) за падтрымку.

Н.М., Таццяне П., Тамары К., Мікалаю С., Галіне Б., Міхаілу Т., Сяргею С., В.Л., Георгію П., Н.Б., Марыне З., Анне К., В.Л., В.Б., А.С., Р.К., Генадзю К., В.І., Уладзіміру М., Наталлі М., Аляксандры У., Мікалаю А., Ігару Л., Валянціне Г., Яўгенію І., Баляславу К., П.Б., В.К., В.Ш., Ніне Ш., Васілію Б., Ігару Х., Ніне Ш., А.Р., Галіне Р., Раісе К., А.К., Тамары П., Васілію З., Соф'і Я., С.Л., Галіне К., Н.А., В.Д., А.Ш., Г.Г., Віктару Л., Васілію Ш., Анатолю К., Аўгінні Б., Святлане І., Валянціне Д., У.Л., А.Д., Віктару Д., Ізмаілу А., Вользе А., Кірылу М., Т.В., Але К., І.К., А.Г., Сяргею Я., М.Ж., Генадзю С., А.Ф., Валянціне В., Ларысе К., Іллі Х., Уладзіміру Ц., Уладзіміру Б. з Мінска.

# Рэпрэсіі выклікалі хвалю эміграцыі з Беларусі

Краіну пакінулі многія вядомыя асобы.

Падзеі 19 снежня і асабліва пасьлявыбарчыя рэпрэсіі выклікалі чарговую хвалю эміграцыі. Актывісты штабоў кандыдатаў, а таксама вядомыя людзі вымушаныя былі пакінуць межы Беларусі. Пакуль няясна, ці гэта часовая з’ява, ці на больш працяглы тэрмін.

Пакінулі межы краіны адразу некалькі актывістаў «Гавары праўду». Не першага звяна, але прыблізаных да кіраўніцтва. Па нашай інфармацыі, у Брусэлі знаходзяцца прадпрымальніцкі лідар Віктар Гарбачоў і Алег Мяцеліца. Яны былі даверанымі асобамі кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. У брата Алега Мікалая Мяцеліцы ў Бялынічах прайшоўператрус.

Нейкі час у бельгійскай сталіцы знаходзіўся і кіраўнік штаба «Гавары праўду» па Мінску Юры Алейнік, адзін з рухавікоў кампаніі Някляева. Але цяпер хлопец — у Вільні.

Тамсама апынуліся лідар руху «Вольная моладзь» Мікіта Красноў і кіраўнік «Руху будучыні» Вячаслаў Дзіянаў. Яны супрацоўнічалі з кандыдатам Міхалевічам.

Красноў разам з сябрамі дабіраўся ў Вільню праз Маскву, Пецярбург, Эстонію. «Усюды нас сустракалі добрыя людзі, якія нам дапамагалі: гэта і маладзевыя арганізацыі ў Расіі і Эстоніі, а таксама праваабаронцы. Цяпер мы адчуваем сапраўдную салідарнасць людзей з рэпрэсаванымі беларусамі», — кажа Мікіта Красноў.

Хлопец навучаецца ў ЕГУ. Красноў і Дзіянаў перад выбарамі заснавалі ініцыятыву «Грамадзянін»

Дарэчы, у Расію яны з’язджалі разам з даверанай асобай Уладзіміра Някляева Уладзімірам Кумцом і Паўлам Маркаўцовым.

Былы палітвязень і лідар моладзі Андрэй Кім таксама вымушаны на нейкі час «залегчы» ў Расіі. Кім адбыў 10-суткавае пакаранне за ўдзел у Плошчы. Аднак пасля вызвалення ён не пайшоў дадому. Зрабіў абачліва, бо там яго ўжо чакалі зператрусам.

Кім адключыў мабільны тэлефон і паціху з’ехаў у Расію. У інтэрв’ю для «Грані-ТВ» ён заявіў: «Я, натуральна, вярнуся ў Беларусь. Але цяпер трэба агледзецца».

У Кіеў выехаў лідар «Правага альянсу» Юрый Карэтнікаў. Менавіта хлопцы з гэтай арганізацыі былі ў ахове Уладзіміра Някляева.




**Няма ніякіх звестак пра зняволенага кандыдата ў прэзідэнты Міколу Статкевіча. Адвакат не бачыў яго ад 29 снежня. На той момант Статкевіч працягваў трымаць галадоўку. Калі ён не спыніў гэтай акцыі пратэсту, на сёння ён галадае ўжо месяц.**

У надрукаваным у «СБ» «кампрамаце» на апазіцыю сярод іншага згадваецца і Карэтнікаў. Найперш, што ён здзяйсняў паездкі ў рэгіёны з мэтай прыцягнення людзей на Плошчу. А потым пісалася, што Карэтнікаў арганізоўваў «баявыя атрады».

У Варшаву прыехалі давераныя асобы Андрэя Саннікава — Зміцер Бародка і Андрэй Бабіцкі. Яны выехалі адразу пасля падзей на Плошчы. У хаце ў Бародкі і ягонай цешчы правялі ператрусы.

Мэрыя Варшавы, тым часам, выдзеліла для працы сайта «Хартыя-97» сядзібу. Не выключана, што менавіта Бародка і Бабіцкі будуць там працаваць.

Былы ахоўнік Андрэя Саннікава Леанід Навіцкі таксама за мяжой. Хлопец сядзеў на Акрэсціна, а па выхадзе хуценька сабраў манаткі і з’ехаў з Беларусі. Першы час Навіцкі быў таксама ў Варшаве.

Аднак на фотках з апошняга дня салідарнасці 16 студзеня ён трымаў плакат «Вярніце бацькоў дзецям» падчас пікетавання ў галандскай Гаазе.

Адцягваюць сваё вяртанне на радзіму і кіраўнікі «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін і Наталля Каляда. У іх запланаваныя працяглыя гастролі ў ЗША, Азіі і праца ў Брытаніі.

У Беларусі ж тым часам на Навіцкага была заведзеная крымінальная справа за ўдзел у «масавых беспарадках».

Палітычнага прытулку ва Украіне папрасіў давераная асоба Міколы Статкевіча Віктар Канцавенка. Бліжэйшымі днямі стане ясна, ці задаволяць ягонае прашэнне. Цяпер Канцавенка трымае галадоўку ў знак салідарнасці з арыштаваным Статкевічам.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», застаецца за межамі Беларусі і шэраг вядомых журналістаў і сацыёлагаў.

Такім чынам, бачна, што апазіцыі нанесены ўдар не толькі праз арыштаваных, але і праз тых, хто пакінуў краіну. Адным сапраўды пагражала крымінальная справа, іншыя перастрахаваліся.

За гэтым пералікам імёнаў хаваюцца чалавечыя трагедыі. З’ехаць у чужую краіну ад сваякоў і родных — гэта нялёгкае рашэнне. Але яны палічылі, што так будзе лепш. Зрэшты, хутчэй за ўсё, што частка з гэтых людзей усё адно вернецца назад у Беларусь.

**Зміцер Панкавец**

## Голас Расіі

Крэмль вуснамі міністра замежных справаў Лаўрова запатрабаваў вызвалення палітвязняў.

Ад Новага года адвакаты бачылі толькі двух вязняў «амерыканкі» — Сяргея Вазняка і Аляксандра Фядуту.

Рэдактар газеты «Товарищ» Сяргей Вазняк трымаецца бадзёра. Кажа, што ўмовы не вельмі добрыя, але ён спрабуе абжыцца. Афіцэр запасу Сяргей Вазняк кажа, што параўноўвае гэтыя ўмовы з войскам.

Затое пачалі прыходзіць першыя лісты ад вязняў. Прычым, амаль ад усіх адразу. Уладзімір Някляеў напісаў сваёй жонцы Вользе, што трымаецца, прасіў перадаць кіпяцільнік, а таксама сала і сухафрукты.

Вольга Някляева з ліста зразумела, што далёка не ўсе перадачкі даходзяць да адрасата.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька піша, што ўсе дні падобныя між сабой, нібыта ксеракопіі. З ліста стала ясна, што галадоўку Лябедзька спыніў.

«Яго не зламалі, настрой баявы. Напісаў, што вельмі будзе чакаць вестак з дому», — кажа сын Лябедзькі Арцём.

«Не перажывайце за мяне. Харчаванне харошае, дыетычнае, настрой таксама добры. Спадзяюся, у вас таксама ўсё добра», — напісала журналістка Наталля Радзіна.

Тым часам, міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» вылучыла Радзіну на атрыманне прэстыжнай прэміі Netizen Prize, за развіццё свабоды слова ў інтэрнэце.

### Байкот у хакеі і «Еўрабачанні»

Гарачыя абмеркаванні працягваюцца вакол тэмы санкцый. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на пасяджэнні Еўрапарламента ў Брусэлі. На ім прысутнічала вялікая беларуская дэлегацыя.

Старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк выказаў думку, што санкцыі трэба ўвесці ў галіне спорту. Маўляў, гэта балюча ўдарыць па іміджы краіны.

Была канкрэтная прапанова байкоту чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску ў 2014 годзе. Зрэшты, наўрад ці гэта знойдзе адлюстраванне ў рэальнасці. Больш верагодна, што зноў усё абмяжуецца санкцыямі палітычнымі — забаронай чыноўнікам на ўезд у ЕС і байкотам Лукашэнкі як такога.

Не выключана, што будзе зменшаная цана на шэнгенскія візы для грамадзян Беларусі.

Напрыканцы пасяджэння дэпутаты Еўрапарламента адначасова адзелі бел-чырвона-белыя шалікі. Пра такую акцыю салідарнасці прасіла дачка арыштаванага Ева Някляева.

### ЗША палохаюць санкцыямі

А вось прадстаўніца Дзярждэпартамента ЗША Нэнсі МакЭлдані ў Вільні заявіла, што калі арыштаваных не выпусцяць, то санкцыі будуць адноўленыя ў поўным аб’ёме.

Можна сказаць, што ўпершыню прагучаў голас Расіі. Міністр замежных справаў гэтай краіны Сяргей Лаўроў зазначыў, што Масква цалкам падтрымлівае прынятую Радай Еўропы рэзалюцыю па Беларусі.

12 студзеня Рада Еўропы заявіла, што патрабуе неадкладнага вызвалення палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў.

Таксама Лаўроў дадаў, што нікога з расійскіх палітыкаў не запрашалі ў Мінск на інаўгурацыю Лукашэнкі.

Па неафіцыйных звестках, яна павінна адбыцца 21 студзеня. Яшчэ ніколі Лукашэнка так надоўга не зацягваў гэтую працэдуру.

**Зміцер Панкавец**

# «Усенароднаабраны» Туніса збег з краіны на самалёце

Усяго паўтара года таму ён набраў на выбарах 89%.

Упершыню ў арабскай краіне скончылася поспехам «каляровая рэвалюцыя». Зін Абідын Бэн Алі 24 гады кіраваў краінай. На тым тыдні ён разам з сям’ёй вылецеў з краіны ў Саудаўскую Аравію.

Пераломным момантам стала пятніца, калі дзясяткі тысяч людзей сабраліся на цэнтральным бульвары сталіцы, аналагу мінскага праспекта. На вуліцы выйшаў сярэдні слой і студэнты.

Нягледзячы на адлёт дыктатара, сілавыя структуры захоўваюць кантроль над сітуацыяй. Цэнтр сталіцы патрулююцца туніскім спецназам, вакол горада размешчаны армейскія часці. Улады разганяюць усе стыхійныя мітынгі.

Тым не менш, настрой у людзей пераважна радасны. Многія ўспрынялі з палёгкай інфармацыю пра пераход улады ў рукі спікера парламента канстытуцыйным шляхам.

ЗША, якія гадамі падтрымлівалі грамадзянскую супольнасць Туніса, віталі перамены. Прэзідэнт Абама выказаў захапленне «мужнасцю і годнасцю» туніскага народа.

Наадварот, аўтарытарныя ўрады арабскіх краін точаць зубы. Фактычныя дыктатары кіруюць суседнімі Егіптам, Лівіяй, Алжырам, Сірыяй. Манархічныя рэжымы працягваюць захоўвацца ў Марока, Саудаўскай Аравіі.

Бэн Алі расставіў на ключавыя пазіцыі сваякоў. Кіраваў ён з апорай на спецслужбы і паліцыю. Ён зачысціў частку апазіцыйных палітычных партый. Многія блогеры аказаліся ў турме за «паклёп на прэзідэнта» і «арганізацыю масавых беспарадкаў». Усяго паўтара года таму на выбарах Бэн Алі «сабраў» 89% галасоў. Але пратрываць чарговы тэрмін не здолеў. Пагаршэнне эканамічнай сітуацыі запатрабавала мераў строгай эканоміі. У адказ людзі сталі выходзіць на вуліцы.

Туніс — папулярны курорт сярод беларусаў. Аднак пасольства нашай краіны ў Лівіі не ведае, ці ёсць беларускія турысты зараз на адпачынку ў Тунісе.

**Сяргей Гезгала, ЗП**

# Залатая бурбалка Ракапові ча




Золатавалютны запас Беларусі ў працэнтах да ВУП — найменшы ў рэгіёне.

Міжнародныя рэзервовыя актывы Беларусі, разлічаныя па стандартах МВФ, за апошні месяц мінулага года зменшыліся ажно на $621,8 мільёна. Такім чынам, на пачатак года колькасць запасаў зменшылася да $5,03 мільярда. Заўважым, што вось гэтае «0,03» выклікае сумневы. Можа быць, іх трохі падцягнулі да сімвалічнай лічбы. Але пакінем сумневы. 5 мільярдаў — гэта многа ці мала?

Усе маладыя незалежныя дзяржавы збіралі ўласныя валютныя рэзервы. Гэта — кашэль краіны, яе скарбніца, зарука стабільнасці эканомікі і фінансавай сістэмы, а таксама падстрахоўка на выпадак надзвычайных сітуацый.

Твары кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі і старшыні праўлення Нацбанка, Героя Беларусі Пятра Пракаповіча проста свяціліся ад шчасця падчас перадвыбарчай фотасесіі. Напярэдадні выбараў Лукашэнка ўласнаручна абмацваў залатыя зліткі ў сховішчы Нацыянальнай бібліятэкі. Пракаповіч тым часам хваліўся, што сярод краінаў СНД Беларусь займае адно з першых месцаў па аб’ёме рэзерваў.

Што, праўда?

«Наша Ніва» звяла ў адну табліцу міжнародныя рэзервовыя актывы і агульны аб’ём ВУП Беларусі і яшчэ дзесяці дзяржаў СНД і Прыбалтыкі.

### Залаты запас імперыі

Калі аналізаваць агульны аб’ём рэзерваў, то зразумела, што Расія будзе па-за канкурэнцыяй. Амаль паўтрыльёна даляраў — гэта не жарцікі.

Вялікія па плошчы Украіна з Казахстанам маюць на парадак ніжэйшыя паказчыкі.

Сярод астатніх краінаў вылучаецца Азербайджан. Нафтавая жыла дазволіла назапасіць невялікай каўказскай краіне $28 мільярдаў.

Астатнія краіны, у тым ліку і Беларусь, знаходзяцца прыкладна ў адной вагавай катэгорыі. Багацейшымі за беларусаў з’яўляюцца балтыйскія суседзі — і латвійцы, і літоўцы. Самыя маленькія запасы ў невялікай Малдовы — менш за $2 мільярды.

### Азербайджан як Беларусь

Цяпер што датычна памеру эканомік — агульнага валавага прадукта. Пры іх ацэньванні выкарыстоўваліся дадзеныя ЦРУ ЗША. У гэтым рэйтынгу месцы, занятыя краінамі, падобныя на тыя, што былі ў папярэднім. Расія зноў далёка наперадзе — амаль паўтара трыльёна даляраў, далей Украіна з Казахстанам... А за імі нага ў нагу крочаць... Беларусь і Азербайджан! Звернем увагу, што пры роўных па памеру эканоміках Аліевы адклалі ў пяць разоў больш рэзерваў за Лукашэнку.

### Выніковае апошняе месца

Урэшце, галоўная лічба — суадносіны агульнага ВУП краіны і рэзерваў. Чым большы працэнт, тым бяспечнейшая эканоміка краіны. Лічыцца, што мінімальна бяспечны памер рэзерваў — аб’ём трохмесячнага экспарту краіны.

Лідары ў гэтай намінацыі — Азербайджан з Казахстанам. Агромністая Расія адкладвае грошы настолькі ж плённа, як маленькая Малдова. Прыбалтыка і Каўказ трымаюцца прыблізна на адным і тым жа ўзроўні, а вось Беларусь катастрафічна правальваецца. Усяго 9,5%! Гэта значыцца, што краіна здолела адкласці на чорны дзень толькі адну дзясятую ад памеру эканомікі за год. Калі ж улічыць, што ўжо ў бліжэйшым годзе Беларусі давядзецца аддаваць даўгі Міжнароднаму валютнаму фонду і Расіі, то залатая жыла падаецца надзвычай тонкай.

Дык пра якое ўдалае назапашванне золата вядзе гаворку Пракаповіч?

**Віталь Несцераў**

**Чаго насамрэч вартыя залатыя зліткі ў Нацыянальнай бібліятэцы?**

| Краіна | Памер золатавалютных рэзерваў, $млрд | Агульны ВУП краіны, $млрд | Суадносіны |
|---|---|---|---|
| Азербайджан | 28 | 52,17 | 53,6% |
| Казахстан | 58,9 | 129,8 | 45,4% |
| Расія | 479,4 | 1480 | 32,4% |
| Малдова | 1,72 | 5,36 | 32,1% |
| Латвія | 6,86 | 23,39 | 29,3% |
| Украіна | 34,58 | 136,6 | 25,3% |
| Арменія | 1,8 | 8,83 | 20,4% |
| Грузія | 2,27 | 11,23 | 20,2% |
| Эстонія | 3,52 | 19,22 | 18,3% |
| Літва | 5,96 | 35,73 | 16,7% |
| Беларусь | 5,03 | 52,89 | 9,5% |

*дадзеныя ЦРУ ЗША, лічбы ў мільярдах даляраў



**Суадносіны валютных запасаў да ВУП, %**

# Інаўгурацыя на носе, а нафта не пастулае

Масква выбівае з Беларусі дадатковыя $840 мільёнаў.

12 студзеня расійскія нафтавыя кампаніі спынілі пастаўкі нафты ў Беларусь, бо з новага года не былі заключаныя адпаведныя дамовы. Пра складанасці ў перамовах стала вядома яшчэ ў канцы 2010 года, але «Белнафтахім» да апошняга разлічваў, што дамовы будуць падпісаны пасля доўгіх расійскіх святаў. Перамовы зацягнуліся, бо па-ранейшаму абмяркоўваецца цана.

Прэс-служба расійскага прэм’ера Уладзіміра Пуціна цынічна заяўляе, што пастаўкі нафты ў Беларусь ажыццяўляе не дзяржава, а камерцыйныя арганізацыі. Таму, маўляў, урад Расіі ніякім чынам не можа ўплываць на камерцыйныя перамовы. З беларускага боку спрабуюць прыйсці да кампрамісу НПЗ, канцэрн «Белнафтахім» і «Беларуская нафтавая кампанія», з расійскага — нафтаздабыўныя кампаніі.

У чым сэнс спрэчкі? Расійскія нафтавікі прапанавалі закласці ў формулу кошту бязмытнай нафты дадатковыя $45 на тону. На іх думку, гэта дазволіць расійскім пастаўшчыкам забяспечыць роўную прыбытковасць пры пастаўках нафты па ўсіх напрамках. Нагадаем, што арыенціровачны аб’ём паставак у гэтым годзе павінен скласці 18,7 мільёна тон, таму падпісанне дамовы на ўмовах расіян будзе каштаваць Беларусі дадатковыя $840 мільёнаў.

Пры гэтым транзіт расійскай нафты ў Еўропу ідзе ў штатным рэжыме. Запасаў на беларускіх НПЗ, па папярэдніх падліках, хопіць да канца студзеня.

**ЯВ, СГ**

# «Адэса—Броды» — гэта надоўга?

Кантракт да транспарціроўку нафты праз Украіну падпісаны на два гады.

Беларусь і Украіна нарэшце заключылі дамову на выкарыстанне трубаправодa «Адэса—Броды». Дакумент прадугледжвае гарантаванае транспартаванне 4 мільёнаў тон нафты ў год з Адэскага порта па нафтаправодзе «Адэса—Броды» да Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.

Па словах міністра энергетыкі і вугальнай прамысловасці Украіны Юрыя Бойкі, створаныя ўсе перадумовы для пачатку працы Еўраазіяцкага нафтатранспартнага калідора (ЕАНТК). Дамова складзена тэрмінам на два гады, аднак прадугледжвае далейшае яго падаўжэнне. Магчыма, што ў далейшым аб’ёмы транзіту нафты ў Беларусь па трубаправодзе «Адэса—Броды» будуць павялічаныя.

Калі сёлета Беларусь атрымае ўсю планаваную нафту з Расіі і Венесуэлы, а таксама здабудзе сваю, паўстане пытанне перагружанасці беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў.

**ЯВ, паводле naviny.by**

### Сцісла

• **Пад выбары Лукашэнка ўключыў грашовы станок?** За перадвыбарчы год рэзка павялічыўся аб’ём грашовага абароту ў краіне. Агульная грашовая эмісія ў Беларусі павялічылася ў 2010 годзе амаль на трацціну — на 31,9% да 50,26 трыльёна беларускіх рублёў ($16,75 мільярда)! Аб’ём наяўных грошай у звароце за год павялічыўся на 23,2% да 4,494 трыльёна рублёў ($1,5 мільярда).

• **Гарэлка падаражэла.** 12 студзеня на 5% выраслі рознічныя цэны на празрыстую валюту. Цяпер рознічная цана на гарэлку са спірту «Люкс» мацункам 40% складае 8650 рублёў за бутэльку без кошту посуду. Папярэдняе павышэнне цаны (таксама на 5%) адбылося 27 жніўня.

• **У рэйтынгу эканамічнай свабоды Беларусь заняла 155-е месца.** Даследчыкі адзначылі пагаршэнне пазіцый Беларусі па 5 з 10 аналізаваных параметраў. Самай свабоднай эканомікай у свеце 17-ы раз запар прызнаецца кітайская аўтаномія Ганконг.

• **Кіраўнік Кітая: Грашовая сістэма з апорай на даляр састарэла.** Ху Цзіньтаа заявіў, што ён робіць усё магчымае, каб ураўнаважыць даляр уласнай валютай — юанем. Але дадаў, што разумее, што гэта доўгі працэс. Ён адкінуў абвінавачванні ў заніжэнні курса юаня.

• **Carlsberg атрымаў кантрольны пакет акцый «Аліварыі».** Кампанія Baltic Beverages Holding AB (BBH) павялічыла сваю долю ў статутным фондзе ААТ «Піўзавод «Аліварыя» да 67,8%. Carlsberg Group — адна з піваварных груп, якія лідзіруюць у свеце.

**ЯВ**

# Экспартная версія МЗС: за плошчай стаяла Расія, у Лукашэнкі не вытрымалі нервы

Амбасадар Латвіі ў Беларусі Міхаіл Папкоў на пасяджэнні камісіі Сейма Латвіі па замежных справах выказаў сваё версіі наконт разгону мітынгу ў Мінску 19 снежня, паведамляе DELFI.

На яго думку, падзеі на плошчы Незалежнасці маглі быць вынікам правакацыі з боку Расіі.

Іншая версія — супярэчнасці ў беларускай палітычнай эліце паміж памяркоўнай групай пад кіраўніцтвам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Макея і сілавымі структурамі.

Не выключае Папкоў і таго, што «ў Лукашэнкі не вытрывалі нервы».

Кажучы пра рэакцыю Еўрасаюза, дыпламат назваў неэфектыўным інструмент уводзення эканамічных санкцый. Ён лічыць, што варта паспрабаваць дэмакратызаваць беларускае грамадства пры дапамозе палягчэння візавага рэжыму і магчымасцяў для атрымання адукацыі.

Паводле інфармацыі «НН» з дыпламатычных крыніц, тое самае цвердзяць Мартынаў і паслы ў Еўропе на закрытых сустрэчах. Гэта можа сведчыць, што перад імі стаіць задача любой цаной аслабіць немінучыя санкцыі.

Палохаюць Расіяй.

**Мікола Бугай**

## Праўдай па хлусні

У сеціве з'явіўся новы фільм аб Плошчы, які цалкам абвяргае версію БТ.

11-хвілінны фільм «Патрабуем праўды і свабоды!» з'явіўся ўслед за бэтэшным прапагандысцкім «Плошча. *Железом по стеклу*».

Пачынаецца «Патрабуем праўды і свабоды!» з кароткага ўступу. У ім гаворыцца, што людзі, якія выйшлі на Плошчу 19 снежня, хацелі, каб іх галасы на выбарах былі ўлічаныя, але былі жорстка збітыя і разагнаныя, сотні апынуліся ў турме, у тым ліку супернікі Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах.

Далей ідзе экскурс у нядаўнюю (і адначасова, здаецца, такую далёкую і нерэальную) гісторыю — перадвыбарчая кампанія, восень — пачатак зімы 2010. У кадры з'яўляюцца пікеты каля ГУМа, партыйныя і нацыянальныя сцягі, Зміцер Вайцюшкевіч спявае дуэтам з кандыдатам Уладзімірам Някляевым. Голас за кадрам кажа: «Яшчэ тры месяцы таму такія маштабныя рэпрэсіі мала хто мог прагназаваць». Палітолаг Алесь Лагвінец з сумнай усмешкай прыгадвае пра невялікае свята непаслушэнства ў недэмакратычнай лукашэнкаўскай Беларусі, пра тое, як людзі ў часе кампаніі адчулі, што з'явілася альтэрнатыва, пачалі абмяркоўваць набалелае.

Далей у фільме прыгадалі сацыялагічныя апытанні, якія нібыта сведчылі пра немагчымасць перамогі Лукашэнкі ў першым туры. А потым пачалося датэрміновае галасаванне, хада якога нічым не адрознівалася ад папярэдніх кампаній. У кадры з'яўляецца Някляеў, які ў атачэнні паплечнікаў і журналістаў стаіць насупраць рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы і заклікае на Плошчу — бараніць свае галасы і дабівацца новых выбараў без Лукашэнкі.

Пасля — кадры, на якіх невядомыя ў чорным атакуюць калону някляеўцаў, а самога кандыдата збіваюць да непрытомнасці.

Далей будуць урэзкі з прэс-канферэнцый Лукашэнкі і Ярмошынай, дзе першы пройдзецца па збітых канкурэнтах, а другая, сама таго не ведаючы, выйграе алюмініевую каструлю ды тытул «Сэксіст года-2010», заявіўшы, што апазіцыянеркам трэба гатаваць дома боршч, а не па плошчах шастаць.

Сцэны збіцця мірных дэманстрантаў пад сценамі Чырвонага касцёла змяняцца гісторыямі пра хвалю перапрусаў у рэдакцыях незалежных СМІ і партыйных актывістаў.

Напрыканцы фільма расказваецца пра лёс сына Андрэя Саннікава і Ірыны Халіп Данілу. Яго бабуля Люцыя Халіп афармляе на ўнука правы на апякунства. І ўсё адно — лёс хлопчыка няпэўны... Фільм заканчваецца пытаннямі: якой будзе будучыня краіны? Як доўга будзе пры ўладзе Лукашэнка? І калі, нарэшце, у Беларусі пройдуць сапраўды вольныя выбары?

Фільм суправаджаецца субтытрамі на англійскай мове і, паводле адной з версій, рыхтаваўся беларуска-расійскай групай журналістаў для прагляду ў Еўрапарламенце.

Фільм шырока разышоўся па сеціве, яго можна пабачыць і на сайце nn.by. Ёсць інфармацыя, што аўтарамі зацікавіліся беларускія спецслужбы.

**Сямён Печанко**

## Пасол Арэнс назваў дзве памылкі апазіцыі

Падчас выступу ў Еўрапарламенце старшыня доўгатэрміновай назіральніцкай місіі АБСЕ акрэсліў асаблівасці выбарчай кампаніі ў Беларусі.



Паводле яго словаў, галоўныя праблемы застаюцца ранейшымі: кансерватыўнасць палітычнай сістэмы, працэс падліку галасоў і датэрміновае галасаванне.

Герт Арэнс сказаў, што сустрэўся з усімі дзевяццю альтэрнатыўнымі кандыдатамі, і ўсе яны выказалі недавер да беларускага выбарчага працэсу. А старшыня Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей, паводле яго словаў, намякаў, што ад АБСЕ чакаюць больш станоўчай ацэнкі выбараў, чым раней, спасылаючыся на «пэўныя змены» ў выбарчым заканадаўстве.

Але галоўнае не сам факт пэўных зменаў, а іх вынікі на практыцы, адзначыў Арэнс. У сувязі з гэтым ён пераказаў анекдот ад Мікалая Статкевіча, аднаго з кандыдатаў, які зараз знаходзіцца ў ізалятары КДБ: «Фізічныя практыкаванні ў вайсковай часты. Падцягванне на турніку. Вайсковец з добрай выправай прыгожа падыходзіць да турніка. Скочыць, спрабуе падцягнуцца і не можа ніводнага разу. Саскочыў з турніка. І зыходзіць так эфектна, прыгожа. Адзнака: падыход да турніка: выдатна, 5 балаў. Падцягванне: кепска, 2 балы. Адыход ад турніка: выдатна, 5 балаў. Агульны вынік: 4 балы!»

Падзяліўся Герт Арэнс і сваімі назіраннямі за выбарамі: «Выбарчы працэс звязваюць з дзяржавай. Яе ўвасабленне — дзейны прэзідэнт. А ён атаясамліваецца з народам. Вось усё гэта было пасланнем нацыянальнага сходу, праведзенага напярэдадні выбараў. І пастаяннае пасланне афіцыйных СМІ».

Герт Арэнс адзначыў, што апазіцыі даводзіцца працаваць у цяжкіх умовах. Але пры гэтым назваў і дзве галоўныя памылкі беларускай апазіцыі.

Першая памылка — раз'яднанасць. Дзевяць адносна малавядомых кандыдатаў — гэта не самы аптымальны варыянт. Другая праблема — недахоп прафесіяналізму ў выбарчай кампаніі. Галоўная задача мусіла не пераказваць тое, што часткі выбарцаў і так вядома, але змагацца за тых, хто аддае свае галасы за дзейнага кіраўніка, адзначыў старшыня назіральніцкай місіі АБСЕ.

**Паводле «Еўрарадыё»**

## Ярмошынай падораць алюмініевую каструлю

Старшыня ЦВК Беларусі пераканаўча перамагла ў змаганні за прэмію «Сэксіст года-2010».




12 студзеня завяршылася галасаванне за намінантаў на інтэрнэт-прэмію «Сэксіст года-2010», заснаваную ініцыятыўнай групай «За фемінізм». На спецыяльны прыз сярод іншых прэтэндавала старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына за сваё выказванне пра жанчынаў, што ўдзельнічалі ў падзеях 19 снежня ў Мінску: «Гэтым жанчынам рабіць няма чаго. Сядзелі б дома, боршч гатавалі, а не па плошчах шасталі. Гэта ганьба для жанчыны — удзельнічаць у падобных мерапрыемствах. Я яшчэ разумею, калі яна дзяўчына дурная, маладая. Ды маладых людзей шмат. А калі жанчына ва ўзросце ідзе, значыць, прабачце, у яе нешта з інтэлектам не ў парадку».

Ярмошына з самага пачатку захапіла лідарства. Па выніках галасавання за яе аддалі галасы 2714 чалавек (90% ад агульнай колькасці выбарцаў — больш па працэнтах, чым за Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах у 2006-м), за яе канкурэнтак разам узятых — толькі 288, а ўсяго ў галасаванні па ўсіх намінацыях узялі ўдзел 4646 чалавек.

Галоўны прыз конкурсу накіруецца ў Мінск. «У нас не было сумневаў, што форма прыза павінна быць звязаная з баршчом... Паміж апалонікам і каструляй мы выбралі каструлю. Сапраўдную родную алюмініевую каструлю. Упэўненыя, спансіраваны самімі беларусамі прыз — алюмініевая каструля айчыннай (РБ) вытворчасці, — досыць ярка выказвае меркаванне грамадзян аб тым, што жанчына, якая дазваляе сабе падобныя выказванні, заслугоўвае сама быць адпраўленай дадому на кухню замест займанай пасады кіраўніка ЦВК», — гавораць у абгрунтаванні такога рашэння.

Адкрытае інтэрнэт-галасаванне ладзілася ад 4 да 12 студзеня.

**СП**




## Крык душы?

На сайце Барысаўскага крыштальнага завода ў самым верхнім радку браўзера можна прачытаць загадкавы надпіс.

Адразу пасля назвы сайта наступным сказам напісана: «Хана заводу прыйшла».

Праўда, разлеглы каталог прадукцыі з 3000 найменняў гэта сцверджанне абвяргае. Трэба спадзявацца, што «хана» яшчэ далёка, а надпісы — справа рук жартаўнікоў.

**Сяргей Мікулевіч**

# Улады прыдумалі спосаб забіраць кватэры ў старых

Працяг са старонкі 1.

Якія ж варыянты хоча прапанаваць дзяржава? Як паведамілі ў Мінгарвыканкаме, іх два. Адзінокія пенсіянеры жывуць на сваёй кватэры, якая пераходзіць да дзяржавы толькі пасля іх смерці. А да гэтага сацыяльныя работнікі павінны даглядаць пенсіянера, ім будзе выплачвацца грашовая дапамога (у дадатак да пенсіі).

Згодна з Законам «Аб пенсійным забеспячэнні», пенсіянеры, якія пражываюць на поўным дзяржаўным забеспячэнні ў доме-інтэрнаце, штомесяц атрымліваюць 10% прызначанай пенсіі, але не менш за 20% мінімальнай пенсіі па ўзросце (63970 руб.).

Альбо другі варыянт: састарэлы чалавек пераязджае ў дом-інтэрнат, дзе ён забяспечваецца ўсім неабходным. А кватэра ў гэты час можа здавацца са згоды ўласніка. Грошы ж будуць паступаць у бюджэт краіны. І ў гэтым выпадку толькі пасля смерці пенсіянера кватэра пяройдзе да дзяржавы.

Згодна са згаданым рэпартажам СТВ, з чатырох тысяч апытаных пенсіянераў 600 гатовыя да такога абмену. Што рабіць іншым, хто хоча пераехаць у інтэрнат і пакінуць кватэру? Адказу на гэтае пытанне чыноўнікі не змаглі даць. Дакументы, якія дазваляюць дзяржаве сёння працаваць па такой схеме, яшчэ не прынятыя. Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама толькі перадалі іх на разгляд ва ўрад. Але разлічваюць, што папраўкі ў заканадаўстве запрацуюць ужо сёлета.

Толькі ў Мінску пражывае дзесяць тысяч адзінокіх пенсіянераў, якія ў сваёй уласнасці маюць жыллё. На гэтыя кватэры і пазіраюць улады.

Але ўзнікае два пытанні.

Па-першае, раней старых людзей прымалі ў домах-інтэрнатах і не забіраючы іхніх кватэр. Проста вылічвалі ў іх з пенсіі грошы на пракорм і дагляд. Няўжо «дзяржава для народа» так распанела, што і гэтае апошняе права нямоглых хоча забраць, як забралі права на бясплатны праезд?

Па-другое, у тым і ёсць прынцып дзяржавы, што мы плацім падаткі не толькі на патрэбы сябе ці сваёй сям'і, а на патрэбы ЎСЯГО грамадства. Гэта значыць, у роўнай ступені абароненымі павінны быць і тыя старыя людзі, што засталіся адзінокімі.

Беднай Таісіі Васільеўне, якая «засталася сам-насам з уласнай жылплошчай», ці патлумачаць, што яна мае права пераехаць у інтэрнат і не ахвяруючы кватэрай? А кватэру мае права пакінуць таму, з кім, можа, цяпер і не ладзіць, хто, можа, цяпер і далёка, але хто будзе глядзець яе магілу і ставіць свечкі за яе душу. І для гэтага зусім не абавязкова сваімі грашыма спансіраваць спецназ і бландзінак з СТВ.

**Кастусь Матушыч**

## Падчасператрусу ў актывіста «Гавары праўду» забралі ўсе грошы сям'і

Днём 14 студзеня у кватэры, дзе пражывае былы каардынатар выбарчага штаба Уладзіміра Някляева Алег Ладуцька, адбыўсяператрус.Ператрусам кіраваў следчы Цыбульскі з Ленінскага РУУС.

Не здолеўшы дазваніцца да самога Алега, якога зараз няма ў Мінску, міліцыянты пазванілі на працу яго маці Наталлі і паведамілі, што калі яна не прыедзе, то дзверы ў кватэру будуць узламаныя. У кватэры ў той момант знаходзіўся састарэлы бацька Наталлі Ладуцькa, які не быў у стане цалкам адэкватна рэагаваць на патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі.

Не дачакаўшыся прыезду Наталлі Ладуцька, Цыбульскі выклікаў з ЖЭСа слесара і загадаў яму ўзламаць дзверы кватэры.Ператрус пачаўся ў адсутнасць гаспадыні.

«Я толькі пад самы канец паспела пад'ехаць. Усё ў кватэры было перавернута з ног на галаву. Забралі камп'ютар, дыскі, некалькі нацыянальных сцягоў, кнігі Някляева і Пазняка. Мне асабліва шкада іх, бо там аўтографы ад аўтараў...» — распавядае Наталля Ладуцька.

Акрамя ўсяго гэтага, супрацоўнікі міліцыі знеслі з кватэры Наталлі Ладуцька і немалую суму грошай. «Я ў сваёй асабістай спальні захоўвала зберажэнні. 9750 доляраў, 450 еўра. Дык і гэта ўсё забралі, сказалі, што следства зацікаўленае праверыць гэтыя грошы, ці не фальшывыя, адкуль паходзяць. Забралі нават 10 злотых (прыкладна 10 тысяч беларускіх рублёў). Я вельмі зараз турбуюся, ці вернуць мне грошы. Гэта мае асабістыя, я доўга збірала іх», — распавяла спадарыня Ладуцька ў размове з карэспандэнтам «НН».

Наталля Ладуцька збіраецца падаваць скаргу ў Генпракуратуру.

**Алесь Пілецкі**

## Юрый Базан: «Аўтарадыё» закрылі незаконна

### Дырэктар радыёстанцыі расказаў пра бліжэйшыя планы рэдакцыі.

«На дадзены момант мы рыхтуем пазоў у Вышэйшы гаспадарчы суд, вычытваем кожны пункт, кансультуемся. Думаю, у панядзелак мы падамо яго ў суд», — расказаў «Нашай Ніве» дырэктар «Аўтарадыё» Юрый Базан. Нагадаем, што 11 студзеня Рэспубліканская камісія па тэлебачанні і радыёвяшчанні анулявала права «Аўтарадыё» на наземнае эфірнае радыёвяшчанне ў сувязі з невыкананнем ёй «творчай канцэпцыі і распаўсюджваннем у эфіры інфармацыі, якая змяшчае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці».



Юрый Базан у рэдакцыі «Аўтарадыё».

### «Гэта нелегітымнае рашэнне»

Юрый Базан упэўнены, што рашэнне камісіі памылковае: «Мы ўважліва азнаёміліся з Законам аб друку, вывучылі палажэнні, якія датычаць адказнасці за распаўсюд экстрэмісцкай інфармацыі. Згодна закону, рашэнне аб закрыцці радыёстанцыі можа прыняць толькі суд. І толькі суд можа вызначыць, што з'яўляецца экстрэмісцкай інфармацыяй».

На думку дырэктара «Аўтарадыё», Камісія па тэлебачанні і радыёвяшчанні фактычна прысвоіла сабе паўнамоцтвы суда, зачыніўшы радыёстанцыю сваім рашэннем і не парупіўшыся нават пра тое, каб расшыфраваць абгрунтаванне такога радыкальнага кроку. «Гэта нелегітымнае рашэнне, і мы будзем яго аспрэчваць».

### «Мы — не палітычнае радыё»

Абскарджванне рашэння камісіі ў ВГС, магчыма, зойме не адзін месяц. Рэдакцыя «Аўтарадыё» не будзе сядзець на месцы ўвесь гэты час. «Нашы наступныя дзеянні будуць мець форму зваротаў. Мы — не палітычнае радыё. Мы займаліся раскруткай беларускай музыкі. Многія гурты, што дэбютавалі ў нас, рабіліся айчыннымі «зоркамі».

Нам тэлефануюць цяпер маладыя музыкі, пытаюць, куды ім цяпер несці запісы».

Спадар Базан падкрэслівае, што трэба мець мужнасць прызнаваць свае памылкі. Тым больш што ўлады любяць нагадваць, што Беларусь — прававая дзяржава. «То давайце і вырашым пытанне ў рамках права». Дырэктар спадзяецца, што, магчыма, праблему вырашыць выканаўчая ўлада — Саўмін або Адміністрацыя прэзідэнта.

### Маўчанне калег-кіраўнікоў, падтрымка шарагоўцаў

За апошнія тры дні ў рэдакцыі «Аўтарадыё» ў літаральным сэнсе не зачыняліся дзверы. «У нас былі і беларускія журналісты, і калегі з Расіі. Запісалі інтрэв'ю некалькі еўрапейскіх тэлеканалаў. Урэшце я сказаў сваім калегам, што інтэрв'ю — гэта добра, але трэба ўжо штосьці рабіць, рыхтаваць дакументы, ратаваць радыёстанцыю», — смяецца Юрый Базан.

А што іншыя беларускія fm-станцыі? «Тут трэба казаць пра два ўзроўні.

Калі гаварыць пра кіраўніцтва радыёстанцый, то бок афіцыйную рэакцыю на сітуацыю вакол нас, то ніводная fm-станцыя не адгукнулася.

Калі ж гаворка пра простых супрацоўнікаў радыё, то нам многія тэлефанавалі. Некалькі чалавек сказалі, што звольніліся з працы пасля закрыцця нашай радыёстанцыі», — расказаў кіраўнік «Аўтарадыё».

Як можна зразумець з дакумента, дасланага на радыё, у віну станцыі паставілі трансляцыю передвыбарных ролікаў Андрэя Саннікава. Той ставіў пытанне: дзе павінна вырашацца будучыня Беларусі: на кухнях ці на Плошчы?

**Сямён Печанко**

## Сцісла

**• Польшча ўводзіць санкцыі супраць Лукашэнкі і некалькіх соцень чыноўнікаў.** Як неафіцыйна паведамляюць дыпламатычныя крыніцы ў Польшчы, у МЗС гэтай краіны гатовы спіс асоб, адказных за рэпрэсіі, што пачаліся пасля выбараў 19 снежня. Вядома, што ў гэтым спісе некалькі соцень прозвішчаў, уключна з А. Лукашэнкам. Пад санкцыі не патрапіць міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў, каб не абмяжоўваць магчымасцяў дыялогу. Аналагічныя санкцыі ад імя ўсяго Еўрасаюза чакаюцца 31 студзеня.

**• Газета «Народная воля» атрымала чарговае папярэджанне ад Мініінфармацыі.** Міністр Алег Праляскоўскі ўгледзеў парушэнне заканадаўства ў вераснёўскай нататцы «Хто пачуе лозунг «Сыходзь?!» аб тым, што незарэгістраваны ў Беларусі «Малады фронт» пачынае аднайменную акцыю. У «распаўсюдзе інфармацыі ад імя арганізацыі, што не прайшла ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю», міністр і ўгледзеў парушэнне закону. Абсурд сітуацыі ў тым, што дзяржаўныя СМІ ахвотна цытуюць, напрыклад, Зюганава. Але расійская кампартыя таксама не зарэгістраваная ў Беларусі, яна зарэгістраваная ў Расіі. А «Малады фронт» — у Чэхіі. Дык у чым розніца?

**МБ**

## Затрыманы кандыдат у прэзідэнты Іван Кулікоў

Гэта здарылася прыкладна а 18-й вечара ў панядзелак.

Кулікоў патэлефанаваў сваёй сястры, каб паведаміць, што зараз да яго ў хату прыдуць зператрусам. Праз пару хвілінаў у дзверы сапраўды раздаўся званок.

Пазней стала вядома, што яго затрымалі на трое сутак «па падазрэнні ва ўчыненні крадзяжу шляхам злоўжывання службовым становішчам».

Гэтай восенню Кулікоў спрабаваў вылучацца ў прэзідэнты, але не набраў подпісаў.

Івану Кулікову 61 год. З 2005 узначальвае лабараторыю абсталявання ядзерных энергетычных установак і рэсурсазберагальных тэхналогій Аб'яднанага інстытута энергетычных і ядзерных даследаванняў «Сосны» НАН Беларусі. Беспартыйны. Удавец, мае двух сыноў і дачку.

**Зміцер Панкавец**

# Жонка за мужа

**Улады прэсуюць сваякоў кандыдатаў у прэзідэнты.**

Вечарам 11 студзеня арыштаваны экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч патэлефанаваў сваёй жонцы. Гэта здарылася каля 19-й гадзіны. З яе словаў, «гэта быў ягоны голас, але ён гаварыў не сваімі словамі».

Званок бомкнуў на сотавы тэлефон Міланы. Яна ў гэты час была ў хаце разам з дочкамі. Муж папрасіў сказаць, на які нумар пазваніць, «каб было добра чуваць». Мілана сказала: на хатні. Яна мяркуе, што просьба, «каб было добра чуваць», азначае, што размова запісвалася.

Перазваніўшы на хатні нумар, Алесь папрасіў, каб Мілана «не ехала ў Брусэль».

«Калі ты будзеш сябе паводзіць як належыць і не паедзеш у пэўныя месцы, то ты цягам тыдня зможаш яшчэ раз пачуць мой голас», — сказаў ён.«Я не магла пазнаць свайго мужа, — кажа Мілана, ледзь не плачучы. — Гэта быў ягоны голас, але не ягоная манера размаўляць».

Праз нейкі час прагучаў трэці званок: «Даруй, сонейка, я памыліўся, — сказаў Міхалевіч. — Не ў Брусэль, а ў Варшаву».

Са словаў Міланы, было добра чуваць, што побач стаіць чалавек, які падказвае яе мужу, што гаварыць. «Лучшэ не ехать», — выразна пачула яна.

«Я задавала пытанні, на якія Алесь маўчаў», — расказвае Мілана. Ён сказаў, аднак, што ведае, што Рымашэўская выпусцілі. Дзіўныя пераводы яго з СІЗА КДБ на Валадарку і назад ён патлумачыў тым, што «ў турме КДБ я забыў толькі некаторыя рэчы».

— Што яны з табой зробяць, калі я не буду маўчаць? — запыталася Мілана ў мужа пры канцы.

— Горш, чым ёсць, са мной ужо не зробяць, — уздыхнуў Алесь. — Калі цягам тыдня ад мяне не будзе ніякіх вестак, рабі ўсё, — паспеў сказаць ён.

Мілана Міхалевіч кажа, што першай задачай было для яе суняць істэрыку старэйшай дачкі, якая пачула размову і напалохалася. Пасля спн. Міхалевіч да ранку думала, а ўранку рашыла: «У Варшаву паеду і буду выступаць».

Мілана мусіла вымушана браць у Варшаву меншую дачку, якой толькі годзік. Старэйшая дачка Міхалевічаў ходзіць у беларускамоўную гімназію. Да нараджэння другой дачкі Мілана Міхалевіч выкладала англійскую мову ў адным з універсітэтаў.

Адкуль у КДБ маглі ведаць пра паездку? Мілана кажа, што размаўляла пра слуханні ў Варшаве праз скайп і таксама праз тэлефон. Яе запрасіла туды Міністэрства замежных спраў Польшчы.

Нумар тэлефона, з якога званіў Алесь, — гэта стацыянарны нумар тэлефона, зарэгістраваны па адрасе КДБ.

Аднак планам выступіць у Сойме не было наканавана спраўдзіцца. Увечары, за некалькі гадзін да варшаўскага цягніка, да Міхалевічаў ужо трэці раз пасля 19 снежня прыйшлі з ператрусам. Працягваўся ён увесь вечар. На цягнік Мілана спазнілася.

Аднак упартая жанчына адступаць не збіралася: яна папрасіла намесніка старшыні Руху "За Свабоду" Юрася Губарэвіча завезці яе ў Варшаву аўтамабілем. А 12-й ночы выехалі яны з Мінска. Але... Іх спынілі пад Баранавічамі і прадэманстравалі пастанову, паводле якой Мілане забаронена перасякаць мяжу Беларусі.

У Мінск жанчына вярталася ў суправаджэнні эскорту з пяці машын спецслужбаў.

На запыты Міланы, на чым грунтуецца забарона ёй выязджаць за мяжу, адказу яна пакуль не атрымала.

**Алесь Пілецкі**

Вечарам 12 студзеня КДБ таксама затрымаў маці Паўла Севярынца, Тацццяну. Яе сустрэлі на ганку дома дачкі, калі спадарыня Тацццяна ішла на варшаўскі цягнік. У Варшаве спадарыня Севярынец, як і Мілана Міхалевіч, збіралася выступаць на канферэнцыі ў Сойме. Жанчыну даставілі на допыт у КДБ, дзе забралі пашпарт. Дакумент вярнулі толькі на наступны дзень.

А перад сустрэчай Вольгі Някляевай з амерыканскім сенатарам Дурбінам да яе на кватэру таксама прыйшлі з чарговым ператрусам. Такім чынам КДБ спрабуе перашкодзіць сваякам вязняў інфармаваць свет пра падзеі Беларусі. Інфармацыя, вядома, пратачваецца іншымі шляхамі. Ды гэта яшчэ і спосаб застрашвання родных, каб менш актыўнічалі.



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

# «Бытавая траўма» Маі Абромчык

**Скаргу дзяўчыны, якой раздрабілі нагу, далучылі да справы аб «беспарадках».**

Скаргу 21-гадовай Маі Абромчык, якой 19 снежня супрацоўнік АМАПа раздрабіў костку галёнкі, далучылі да справы «аб масавых беспарадках». Па яе словах, скаргу з раённай пракуратуры перанакіравалі ў аддзел міліцыі. Пры гэтым у выпісцы са шпіталя значылася «бытавая траўма».

Галіна Абромчык, маці збітай дзяўчыны, паведаміла, што супрацоўнікі пракуратуры перадалі скаргу ў міліцыю і напісалі адпіску. Там згадваецца крымінальная справа па артыкуле 293 «масавыя беспарадкі», што яе скарга далучаная да гэтай справы... «Як быццам яна ўдзельнічала ў гэтых масавых беспарадках, а тое, што яе пабілі, гэта справа сто дзясятая», — наракае жанчына.

Нагадаем, што 21-гадовую Маю Абромчык і яе сяброў збілі 19 снежня недалёка ад плошчы Незалежнасці. У яе былі перабітыя косткі галёнкі. Праз дзень пасля збіцця Маі была зробленая аперацыя.

У выпісцы са шпіталя Маі Абромчык значыцца «бытавая траўма». Рэч у тым, што па наменклатуры бываюць «бытавыя» і «вытворчыя» траўмы. Няма катэгорыі «траўмы, атрыманыя ў выніку гвалтоўных дзеянняў». Тым не менш, калі пацярпелы ад гвалтоўных дзеянняў звяртаецца ў медыцынскую ўстанову з просьбай зафіксаваць цялесныя пашкоджанні, яны не кваліфікуюцца як бытавыя траўмы, што дазваляе выкарыстаць медыцынскую даведку ў судзе як доказ збіцця.

**АП**

# Жонка прэзідэнта Польшчы наведала канцэрт у падтрымку «Нашай Нівы» ў Варшаве

16 снежня ў канцэртнай студыі Польскага радыё ў Варшаве прайшоў канцэрт салідарнасці «Пачуй Беларусь — Культура супраць дыктатуры», падрыхтаваны 2-й праграмай Польскага радыё.

Канцэрт быў дабрачынны. Арганізатары абвясцілі, што сродкі, атрыманыя за білеты, на продажы значкаў і плакатаў, будуць пералічаныя «НН». «У той дзень, калі мы меркавалі, што можам зрабіць для Беларусі, якраз адбыўся ператрус у «НН», — кажа прадзюсар акцыі Ігар Знык. — І адразу з'явілася ідэя зрабіць такую акцыю ў падтрымку газеты».

На канцэрт у нядзельны вечар прыйшло трохі моладзі, трохі беларускіх студэнтаў, але слухацкую большасць складалі палякі сталага веку, для якіх і дыктатура, і салідарнасць — не словы, а частка жыццёвага досведу.

Прысутнічала на канцэрце і жонка прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага — Ганна. Пасля канцэрта яна пагутарыла з музыкамі і арганізатарамі. Таксама, паводле папярэдніх звестак, на канцэрце збіралася быць жонка пасла Беларусі ў Польшчы. Як паведамілі арганізатары, ім тэлефанавалі з беларускага пасольства і запытвалі, ці зможа «пані пасло-ва» сказаць прамову са сцэны. Калі арганізатары не пагадзіліся, інфармацыя пра візіт не была пацверджаная афіцыйна.

Затое ад беларускага пасольства прыйшоў супрацоўнік з характэрным непранікальным выразам твару.

На сцэне ж выступалі мінскія гурты «Рэха» і WZ-Orkiestra. Спявала фантастычны фолк Наста Някрасава. Чытаў творы Багдановіча, Танка, Арлова, Някляева і Хадановіча ў польскіх перакладах знакаміты кінаактор Адам Ферэнцы.

Пры канцы музыкі супольна выканалі знакавую для польскага змагання за незалежнасць песню «Муры». Пры канцы 2010 года яе з польскай мовы пераклаў Андрэй Хадановіч. У яго выкананні «Муры» прагучалі з трыбуны плошчы Незалежнасці 19 снежня.

Зала вітала песню воплескамі і стоячы.

Дзякуем за такую салідарнасць.

**Рэд.**



**Жонка польскага прэзідэнта ўмее быць нефармальнай. На фота: са Змітром Вайцюшкевічам і Адамам Ферэнцы.**

# КДБ вярнуў тэхніку відэаапаратарцы «Нашай Нівы»

**Камп'ютары іншых супрацоўнікаў Рэдакцыі застаюцца у спецслужбе.**

10 студзеня відэаапаратарцы «Нашай Нівы» патэлефанавалі з Камітэта дзяржаўнай бяспекі і прапанавалі забраць тэхніку, вынятую ў часе вобшуку 31 снежня. Такім чынам, камп'ютары і камера Тацццяны Гаўрыльчык правялі ў КДБ 11 дзён. Вярнулі ўсё, акрамя аднаго кампакт-дыска, які, імаверна, проста вытрусіўся недзе.

Як і ў часе допыту раней, так і ў часе вяртання тэхнікі супрацоўнікі КДБ паводзілі сябе карэктна.

Іншая тэхніка супрацоўнікаў «Нашай Нівы», вынятая ў часе ператрусу 28 снежня і 31 снежня, застаецца ў КДБ.

**Рэд.**

# Ва «ўрад народнага выратавання» ўвайшлі нават мёртвыя

**Працяг са старонкі 1.**

«У Мінску прайшло пасяджэнне аргкамітэта па стварэнні Альтэрнатыўнага ўрада для будучага адзінага кандыдата ад апазіцыі.

Ініцыятарам ідэі выступіў аргкамітэт партыі БХД. Таму пасяджэнне адкрывалі Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі. Абодва ў чорных гарнітурах, абодва без гальштукаў. Трэці сустаршыня Хрысціянскай Дэмакратыі Аляксей Шэін спазніўся, але таксама сеў у галаву стала. Таксама ў чорным касцюме, але пры гальштуку.

З патэнцыйных кандыдатаў прысутнічалі Някляеў (падсеў да Раманчука), Ярашук (сядзеў побач з Калякіным), Казулін (сядзеў каля Марачкіна). Зрэшты, гэтых прэтэндэнтаў так шмат, што тут адпавядае сказаць: «ды іншыя».

Нікога не было з лідараў Руху «За Свабоду».

Ад «Хартыі'97» прысутнічаў Зміцер Бандарэнка, але дэманстратыўна сышоў у часе выступу Рымашэўскага. «Чаго ты ідзеш туды? Там табе слабую пасаду выдзелілі — міністра культуры», — спрабаваў ён спыніць Уладзіміра Някляева, але той не паслухаўся.

Першым узяў мікрафон палітычны аналітык Валер Карбалевіч. Ён выказаў скепсіс адносна ідэі альтэрнатыўнага ўрада ў сітуацыі, калі ў апазіцыі няма адзінства. «Упершыню ніхто з апазіцыйных кандыдатаў не ставіць сабе задачу перамогі на выбарах, — наракаў ён. — Апазіцыя ператвараецца ў кола дысідэнтаў».

Другім узяў мікрафон Аляксандр Старыкевіч. Ён рэпрэзентаваў тых кандыдатаў у міністры, якіх «без іх ажанілі». Ён выказаў прэтэнзію арганізатарам, што яны ўключылі яго ў спіс патэнцыйных членаў урада. І пацікавіўся, ці ўзгаднялі з уключанымі асобамі іх згоду. Здаецца, у сітуацыі Старыкевіча была абсалютная большасць патэнцыйных міністраў і намеснікаў.

Не, прызнаў Севярынец: «Можа быць, гэта ў нейкай ступені гульнявая тэхналогія».

БХД нарадзіла гэтую ідэю як своеасаблівую дэкларацыю пра намеры і перадае гэтую ідэю шырокай грамадскасці.

А вось праваабаронца Алег Воўчак запрашэнню рады: «Я на дзяржслужбу хачу вярнуцца. І хачу вярнуцца на канкрэтную пасаду — Генеральнага пракурора». Супрацоўнікаў пракуратуры цікавіць не кандыдатура, а праграма. Следчы камітэт будзе пры міліцыі ці пры пракуратуры. Прызначаць генпракурора будзе прэзідэнт ці парламент.

Воўчак і іншы лідар былых афганцаў Аляксандр Камароўскі гаварылі адным голасам: няважна, хто кандыдат і ці будзе ён адзіны. Патрэбнае адзінства дзеянняў.

Статкевіч, Баршчэўскі і Грыб таксама выступілі ў ліку першых.

Мечыслаў Грыб нагадаў, што першы альтэрнатыўны ўрад быў створаны Вярхоўным Саветам 13-га склікання. Узначальваў яго Генадзь Карпенка, які заўчасна памёр пры нявысветленых абставінах. Пасля яго змяніў Грыб і быў кіраўніком гэтага выканкама, пакуль той Вярхоўны Савет існаваў. Наступны Нацкам быў створаны пры Аб'яднаных дэмакратычных сілах.

Грыб прызнаў, што ніводная з гэтых структур не вырасла ў сапраўдны «ценевы ўрад», бо апазіцыя для таго не мела інструментаў. Генерал Грыб заклікаў апазіцыю да рэалізму.

І даў абяцанне дапамагаць усім сваім вопытам кандыдатам ад апазіцыі і новай уладзе, калі яна з'явіцца.

Філосаф Уладзімір Мацкевіч абвесціў, што гатовы галасаваць за любога, хто пойдзе альтэрнатывай для Лукашэнкі. Але падкрэсліў, што ніводнаму не хоча дапамагаць, «і так далей», дадаў ён.

Зміцер Дашкевіч падняў праблему нараджальнасці.

Пасля гэтага мікрафон аддалі патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты.

Анатоль Ярашук выступаў па-беларуску. «Ідзе ператварэнне апазіцыі ў новы якасны стан, — запэўніў ён. — Ёсць новыя твары, плыні і ідэі». І нагаварыў шмат кампліментаў лідарам БХД.

Уладзімір Някляеў таксама арганізатараў пахваліў, па-літаратурнаму. За тое, што яны фабулу, «жыццёвую муць», як казаў Шклоўскі, ператвараюць у сюжэт — які пачынаецца з перамогі. «А перамогу адкладваць ужо няма куды», — скончыў ён.

Яраслаў Раманчук таксама выступаў па-беларуску, прычым з паўночназаходнім акцэнтам. Падтрымаў «дыялог» між палітыкамі і экспертамі.

Сяргей Калякін зрабіў здаровую заўвагу: «Кааліцыйны ўрад магчымы толькі ў тым выпадку, калі мы дамовімся пра кааліцыйнага кандыдата ў прэзідэнты».

А Карбалевічу даў водпаведзь: апазіцыя працу вядзе, і хоць яна не заўжды публічная і вынікі яе не ўсе публічныя, але «ў нас ёсць адказы на ўсе гэтыя пытанні».

Казулін прамаўчаў.

Падсумоўваючы, Севярынец палічыў, што з 14 чалавек, якія заявілі аб намеры вылучацца ў прэзідэнты, на пасяджэнне па стварэнні альтэрнатыўнага ўрада з'явіліся дзевяць.

Пасяджэнне было абвешчанае закрытым. Кандыдатаў запрасілі застацца на круглы стол па выбары працэдуры вылучэння адзінага кандыдата.

**Паводле: nn.by, 17 чэрвеня**


Урад народнага выратавання

1. Адміністрацыя
1. МУС - Сіўчык, Грыб, Воўчак
2. МЗС - Лябедзька, Саннікаў, Мілінкевіч, Рымашэўскі, Краўчанка, Макоўскі
3. Мінабароны - Статкевіч, Бароўка, Камароўскі
4. БСБ - Аўтуховіч, Барадач, Кабанчык В.
5. Мін'юст - Луканін, Пастухоў, Гулак, Альфер
6. Адмін. рэформы самакір. - Кобаса, Пліска, Марыніч, Міхалевіч

2. Эканамічны
1. Фінансаў - Багданкевіч, Раманчук, Чубрык
2. Эканомікі - Чалы, Злотнікаў, Залескі, Дзмітрук
3. Энергетыкі - Гусак, Манёнак
4. Прамысл. - Вайтовіч, Клімовіч, Бухвостаў
5. С/г - Нікітчанка, Баўсюк
6. Прыр. Рэсурсы - Дранчук В., Лукашоў, Севярынец
7. Транспарту і камунікацыяў - Кастусёў

3. Сацыяльны
1. Мін'інформ - Марцаў, Старыкевіч, Дынько, Шэін, Літвіна
2. Мін'адукацыі - Баршчэўскі, Трусаў, Колас, Нагорны, Мацкевіч, Лозкі
3. Мін'культуры - Някляеў, Марачкін, Мазынскі, Каржанеўскі
4. Спорт і турызм - Каныгін, Купрэйчык, Садоўскі Д.
5. Працы і сац. развіц. - Ярашук, Грушавы, Сасноў, Скарабагаты, Кісель
6. Сям'і і моладзі - Дашкевіч, Карэтнікаў, Кім, Лысюк, Логвін
7. Рэлігіі і нац. - Шаўцова, Сапяжынскі
8. Ахова здароўя - Бандажэўскі, Вітушка

«Дакумент», які сведчыць аб падрыхтоўцы «беспарадкаў», апублікаваны дзяржаўнымі СМІ.

**Альтэрнатыўны ўрад. Прапановы арганізатараў на 17 чэрвеня**

**I. Адміністрацыйны блок**

Міністэрства ўнутраных справаў
М.Грыб, А.Воўчак, В.Сіўчык

Міністэрства замежных справаў
А.Мілінкевіч, А.Саннікаў, П.Краўчанка

Міністэрства абароны
М.Статкевіч, У.Бароўка, А.Камароўскі

Беларуская служба бяспекі
У.Барадач, М.Аўтуховіч, В.Кабанчук

Міністэрства юстыцыі
М.Пастухоў, А.Гулак, Г. Паганяйла, С.Альфер, С.Луканін, У.Лабковіч

Міністэрства адміністрацыйнай рэформы і самакіравання
М.Кобаса, М.Марыніч, М.Пліска, А.Міхалевіч

**II. Эканамічны блок**

Міністэрства фінансаў
С.Багданкевіч, Я.Раманчук, А.Чубрык

Міністэрства эканомікі
С.Чалы, Л.Злотнікаў, М.Залескі, Г. Дзмітрук

Міністэрства энергетыкі
С.Гусак, Т.Манёнак

Міністэрства прамысловасці
В.Шлындзікаў, А.Вайтовіч, А.Бухвостаў, Ю.Клімовіч

Міністэрства сельскай гаспадаркі
І.Нікітчанка, М.Баўсюк

Міністэрства прыродных рэсурсаў
В.Дранчук, К.Лукашоў, П.Севярынец

Міністэрства транспарту і камунікацый
Р.Кастусёў, С.Чарнавокі

**III. Сацыяльны блок**

Міністэрства працы і сацыяльнага развіцця
А.Ярашук, Г. Грушавы, А.Сасноў, А.Кісель, Л.Скарабагаты

Міністэрства інфармацыі Ж.Літвіна, П.Марцаў, А.Дынько, А.Старыкевіч, І.Сярэдзіч

Міністэрства адукацыі
А.Трусаў, У.Колас, Л.Баршчэўскі, У.Мацкевіч, А.Лозка

Міністэрства культуры
У.Някляеў, А.Марачкін, В.Мазынскі, Г. Каржанеўская

Міністэрства спорту і турызму
У.Парфяновіч, В.Купрэйчык, С.Каныгін, Д.Садоўскі

Міністэрства аховы здароўя
А.Вітушка, Ю.Бандажэўскі, І.Шэга

Міністэрства сям'і і моладзі
З.Дашкевіч, Ю.Карэтнікаў, А.Кім, Л.Лысюк, І.Логвін, Н.Палажанка

Міністэрства рэлігій і нацыянальнасцей
Д. Шаўцова, А.Сапяжынскі, А.Шэін».



PHOTO.BYMEDIA.NET

## Някляева «выразалі» з фільма пра Мулявіна

### АНТ адцэнзуравала расійскі фільм аб стваральніку «Песняроў».

12 студзеня на тэлеканале АНТ быў паказаны расійскі дакументальны фільм «Горкае шчасце песняра». Стужка была прымеркавана да 70-годдзя народнага артыста Беларусі. Сярод яе ўдзельнікаў быў і паэт Уладзімір Някляеў, на чые вершы «Песняры» выконваюць песні.

Быў, але... прапаў.

Цяпер Някляеў знаходзіцца ў СІЗА КДБ. 19 снежня яго збілі людзі ў чорным. Яму спрабуюць прыпісаць арганізацыю «беспарадкаў» у Мінску. Беларуская ўлада стараецца выставіць апазіцыю ў якасці дэструктыўных элементаў.

З'яўленне Някляева ў зусім іншай ролі на дзяржТБ не адпавядала б абранай лініі.

**Кастусь Матушыч**

Фільм без купюраў можна пабачыць на сайце NN.BY. Знойдзеце пошукам на ключавыя словы «Някляеў + Мулявіна».

Ні ў адной вялікай кнігарні Мінска кніг Някляева ў продажы няма. Старыя раскупіліся, новых не паступала.

## Арышты ў Беларусі — у кнізе рэкордаў Гінэса

Накіравана заяўка ў Кнігу рэкордаў Гінеса на фіксацыю сусветнага рэкорду. Яшчэ ніколі раней у свеце не было выпадкаў, каб праз некалькі гадзін пасля выбараў было арыштавана 70% кандыдатаў у прэзідэнты (7 з 10 чалавек).

Усе ахвотныя могуць прадубляваць сваю заяўку праз сайт guinnessworldrecords.com.

**СГ**

## Германія не пусціла ў краіну міністра эканомікі Беларусі

### А запрашэнне Мартынава на прадстаўнічы форум адклікалі.

Германія пачала абмяжоўваць кантакты з афіцыйным Мінскам.

Як паведаміў 15 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску ўпаўнаважаны ўрада Германіі па правах чалавека Маркус Лёнінг, баварскі міністр эканомікі адклікаў запрашэнне міністру эканомікі Беларусі Мікалаю Снапкову ўзяць удзел у канферэнцыі ў Мюнхене.

Паводле яго слоў, баварскі міністр заявіў, што з прычыны апошніх падзей у Беларусі прысутнасць Снапкова на канферэнцыі «непажаданая».

Амаль адначасова арганізатары Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы скасавалі запрашэнне беларускаму міністру замежных справаў. Пра гэта паведаміла польскае агенцтва PAP.

Арганізатары адзначылі: штогадовая Мюнхенская канферэнцыя з'яўляецца прыватнай, а не дзяржаўнай. Таму рашэнне пра адмову шэфу беларускага МЗС не варта звязваць з пазіцыяй нямецкага ўрада. Гэта было прыватнае "фі".

Між тым у Мюнхене збяруцца сакратар Дзяржсдэпартамента ЗША Хілары Клінтан, канцлерка Нямеччыны Ангела Меркель, міністр замежных справаў Расіі Сяргей Лаўроў, брытанскі прэм'ер Дэвід Кэмеран, генсакратар ААН Пан Гі Мун, генсакратар NATO Андэрс Фог Расмусэн, прэзідэнт Еўрапейскай рады Герман ван Рампэй.

**СГ; БелаПАН**

# Іспанская паліцыя ліквідавала банду порнадзялкоў з Беларусі

Іспанская паліцыя ў супрацоўніцтве са спецслужбамі ЗША і Беларусі арыштавала 49 членаў злачыннай групы, якая стварыла міжнародную сетку з больш чым 200 сайтаў і прадавала праз іх дзіцячую парнаграфію.

Яшчэ 15 чалавек былі затрыманыя пасля таго, як яны паспрабавалі падпісацца на атрыманне парнаграфічных матэрыялаў з удзелам дзяцей.

«Кліенты плацілі штомесяц, яны не хацелі аддаваць грошы за неўнікальныя фота ці відэа, якія можна знайсці на іншых сайтах. Яны патрабавалі новых матэрыялаў жорсткага абыходжання з дзецьмі. Па гэтай прычыне мы лічым, што порнапрадукцыя рабілася на заказ», — заявіў галоўны інспектар Энрыке Радрыгес.

Іспанскія ўлады заявілі, што злачынная арганізацыя, заснаваная ў Беларусі, мела філіі і ў іншых еўрапейскіх краінах, а таксама ў ЗША, і зарабляла на дзіцячай парнаграфіі каля 2 млн даляраў у месяц.

**СГ**

# Бясплатных польскіх віз турысты не пабачаць

Каб унесці яснасць у пытанне бясплатнай выдачы нацыянальных віз, супрацоўнікі консульства Польшчы правялі 14 студзеня прэс-канферэнцыю.

Такім чынам, на бясплатныя нацыянальныя польскія візы могуць разлічваць грамадзяне Беларусі, якія плануюць знаходзіцца на тэрыторыі суседняй дзяржавы больш за 90 дзён на працягу паўгода і здольныя гэта дакументальна пацвердзіць. У гэтую катэгорыю трапляюць беларусы, якія вучацца ў польскіх навучальных установах, выязджаюць з мэтай працаўладкавання або маюць так званую «Карту паляка».

— Паколькі турыстычныя паездкі складаюць, як правіла, менш 90 дзён, у гэтым выпадку будзе, як і раней, выдавацца аднаразовая шэнгенская віза коштам 60 еўра, — растлумачыў консул-дарадца, першы сакратар амбасады Польшчы ў Беларусі Павел Марчук.

Ён падкрэсліў, што на дадзены момант толькі ў мінскім консульстве Рэспублікі Польшча маюць акрэдытацыю 82 турыстычныя фірмы. Нагадаем, што раней Польская турыстычная палата прапаноўвала ўвесці сістэму электронных ваўчараў, закліканых паскорыць тэрміны разгляду выдачы шэнгенскіх віз. Адказваючы на пытанне з нагоды гэтай прапановы, консул-дарадца нагадаў, што тэрмін разгляду заявы аб выдачы візы складае да 15 дзён і ні пры якіх умовах не можа быць скарочаны.

Такім чынам, для большасці беларусаў новаўвядзенні польскага МЗС не маюць ніякага практычнага значэння.

Дарэчы, сам консул-дарадца таксама заўважыў, што адмена платы за польскія нацыянальныя візы ніяк не паўплывала на колькасць пададзеных зваротаў. Гэтае ўвядзенне можна ацаніць хутчэй як палітычны крок.

Турыстам застаецца чакаць рашэння Еўрасаюза, які мае скараціць цану візы з 60 да 35 еўра.

**tio.by; МБ**

## Куды падзеліся пангасіус і тылапія, або Змаганне з экспартам



Са знікненнем з прылаўкаў філе пангасіуса і тылапіі пачалі распаўсюджвацца чуткі пра забарону на ўвоз іх у Беларусь нібыта праз шкоду для здароўя. Высветлілася, аднак, што забароны не было, але было прынятае рашэнне прыпыніць увоз гэтых відаў рыбы ў Беларусь.

У аддзеле прадуктаў жывёлагадоўлі Міністэрства гандлю Беларусі растлумачылі, што рашэнне прыпыніць імпарт філе прэснаводнай рыбы выклікана тым, што ў Беларусі ёсць свае аналагічныя віды — напрыклад, карп альбо таўсталобік, і калі на складах пангасіус скончыцца, беларусы будуць купляць беларускае.

**КаМ; паводле Interfax.by**




PHOTO.BYMEDIA.NET

# Дзяржсімволіка дагары нагамі

на Кантынентальным кубку

Падчас цырымоніі ўрачыстага адкрыцця суперфінала Кантынентальнага хакейнага кубка вынеслі дзяржаўныя сцягі краін-удзельніц. Беларускі фігураваў дагары нагамі.

У спаборніцтвах бралі ўдзел чатыры каманды: мінскае «Юнацтва», аўстрыйскі «Рэд Бул Зальцбург», французскі «Руан» і дацкі клуб «Сёндэрыйскe».

Турнір, які праходзіў у «Мінск-Арэне», адзначыўся надзвычай нізкай цікавасцю гледачоў. Арганізатары нават сагналі на трыбуны дзяцей і вайскоўцаў.

А перамагло «Юнацтва». У вырашальным матчы яны перамаглі аўстрыйцаў 4:3.

**АГ**

## Аўдыторыя «Белсата» набліжаецца да мільёна

Даследаванне праводзіў сацыялагічны цэнтр «Люстэрка-інфо».

5,5% апытаных дарослых беларусаў адзначылі, што стала глядзяць «Белсат», і 6,7% сказалі, што глядзяць яго час ад часу. У красавіку 2010 г. гэтыя паказнікі складалі 2,3% і 8,1%.

**belsat.eu**

## Сенсацыя: Верамко перайшоў з БАТЭ ў аўтсайдарскі «Севастопаль»

Галкіпер ФК БАТЭ Сяргей Верамко вяртаецца ва ўкраінскае першынство. У чацвер варатар падпісаў кантракт з «Севастопалем».

Сяргей Верамко нарадзіўся ў 1982 г. у Мінску. Футбольную кар'еру пачаў у «Дынама-2» (Мінск). Гуляў за «Дынама-Юні» (2000–2002), потым чатыры сезоны, з 2002 па 2006 г., правёў у харкаўскім «Арсенале» (з 2005 г. — «Харкаў»), у 2006–2007 гг. гуляў за гродзенскі «Нёман». З 2008 г. выступаў за БАТЭ. Трохразовы чэмпіён Беларусі, гуляў за БАТЭ ў групавым турніры Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы.



«Севастопаль» пасля 19 тураў — зараз у чэмпіянаце Украіны перапынак — займае перадапошні, 15-ты радок.

У каманды на рахунку 14 балаў (3 перамогі, 5 нічыіх, 11 паразаў, баланс мячоў 12–32). Замыкае табліцу «Металург» (Запарожжа) з 10 баламі, у «Крыўбаса», які ідзе 14-м, 18 балаў.

Матчы чэмпіянату Украіны адновяцца 5 сакавіка. «Севастопаль» згуляе ў гэты дзень на сваім полі з лідарам першынства — данецкім «Шахцёрам».

**Алег Гардзіенка**

## Дзякуючы чытачам «Нашай Нівы» маленькі Эдуард трапіў на лячэнне ў Амерыку

### А Насця Навумава — у Германію. Бацькі дзяцей дзякуюць дабрадзеям.

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» напісала Вольга Дубінка, мама 2-гадовага Эдуарда. У хлопчыка дзіцячы цэрэбральны параліч цяжкай формы, эпілепсія. Лячыць яго ўзяліся толькі ў Інстытуце Глена Домана, што ў Філадэльфіі (ЗША). Першы курс лячэння прынёс пазітыўныя вынікі. Дзякуючы інфармацыі ў «НН» і блогах бацькі сабралі патрэбную суму і ў снежні ў чарговы раз адвезлі сына ў ЗША на абследаванне і карэкціроўку лячэння. Як і ў першы раз, лячэнне моцна дапамагло. Хлопчык зрабіў скачок у сваім развіцці.

Мама Эдуарда ад імя сваёй сям'і дзякуе ўсім, хто іх падтрымаў у бядзе.

Свае падзякі ўсім неабыякавым людзям, у тым ліку чытачам «НН», перадае і мама Насці Навумавай. Дзяўчынка трапіла ў дзіцячы анкацэнтр у 2007 г. пасля траўмы нагі. Дыягназ — альвеалярная рабдаміясаркома правай галёнкі, II стадыя. Яна мужна перанесла 9 курсаў хіміятэрапіі, дзве аперацыі і курс прамянёвай тэрапіі. Хвароба адступіла да 2010 г. Добрыя людзі сабралі грошы на аперацыю ў Германіі ў клініцы медуніверсітэта Гросхадэрн у Мюнхене. Перад Новым годам дзяўчынка з мамай паехала ў Германію на лячэнне. Збор сродкаў на лячэнне Насці не спыняецца.

**СП**



# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Частка IV.

# Рабінзанада ў Гандурасе

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта **Кірыла Краўцоў** — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта **Аўгіня Манцэвіч** — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта **Верасень** — аператар, гітарыст.

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2 за 2011.**

Ноч і трапічны лівень засталі нас у маленькім горным мястэчку. Мокрыя да ніткі і замерзлыя, мы сышлі з трасы ў пошуках месца для начоўкі. Раптам сярод цемры з'явіўся чалавек. Мы запыталіся, дзе можна переначаваць. «Запытайцеся ў гэтым гатэлі», — ён паказаў пальцам на асветленую ліхтаром вывеску. «У нас няма грошай на гатэль», — тлумачым мы. «Я і кажу, зайдзіце ў гатэль, запытайце дона Сямёна...»

Мы пакрочылі ў бок рэцэпцыі. Адтуль да нас пад дождж выйшаў хлопчык год адзінаццаці. «Уна кварта?» (пакой?) — запытаў у нас. «Мы хочам паразмаўляць з донам Сямёнам». Хлопчык залепятаў штосьці па рацыі, загадаў чакаць і знік за дзвярыма рэцэпцыі. Мы засталіся пад даждждом.

Праз хвілінаў пяць да нас выбег дон Сямён. Мы коратка расказалі пра сябе. Сказалі, што хочам пераначаваць, але не маем грошай. Затое можам зрабіць любую працу ў гатэлі: штосьці памыць, прыбраць. А таксама з радасцю паспяваем беларускіх песень. Дон Сямён паківаў галавою і знік за дажджавою завесаю.

Праз пару хвілінаў да нас ізноў выйшаў хлопчык і сказаў, што дон Сямён чакае нас дома. І паказаў пальцам на хату, над комінам якой клубіўся густы дым. Кухня. Тут у зборы ўся сям'я: дон Сямён з жонкай, сын з нявесткай і два ўнукі. «Хочам паслухаць музыку», — аб'явіў нам дон Сямён.

Пасля, пачаставаўшы нас вячэраю, выдзяліў найлепшы пакой у гатэлі. І раніцай пасля снядану мы працягнулі шлях.

Да Гватэмала-сіці нас давезлі два спадары, адзін з якіх аказаўся афіцыйным дыстрыб'ютарам антывіруса Касперскага ў Гватэмале. «А што, у вас усе камп'ютарныя праграмы ліцэнзійныя?» — пытаемся мы. «Ды не», — адказвае той. Але працы, відаць, у яго хапае. І грошай таксама. Новыя сябры адвезлі нас у рэстаран нацыянальных страваў і накармілі так, што мы нават не здолелі ўсё з'есці і ўзялі з сабою.

У прыгарадзе Гватэмалы нас заспела ноч. Бачым вывеску: «Суполка хрысціянаў...». Гватэмала — вельмі рэлігійная краіна. Кожны першы тут у нас пытаецца, якой мы веры. Значыць, у гэтай суполцы нам мусяць дапамагчы.

У вялізнай царкве кожны займаўся сваімі справамі. У пошуках падрэ я падышла да барадатага мужчыны і патлумачыла сітуацыю. Той раптам пачаў крычаць, што падрэ няма, а ён не можа нам дазволіць не тое што ў царкву ўвайсці, але і паставіць перад ёй пад навесам намёт. І ўсё таму, што мы не з'яўляемся членамі іх хрысціянскай суполкі.

Мы развярнуліся назад. Аднак у цемнаце разгледзелі маленькую драўляную хатку са святлом у падворку. І накіраваліся туды. Там нас уважліва выслухалі, сказалі, што мы ўсе браты, хоць і размаўляем на розных мовах, а Бог — наш агульны бацька, і пусцілі пераначаваць у суседні будынак — вялізную закінутую сядзібу.

### Гандурас-нелегал

Раніцаю мы былі на мяжы з Гандурасам. Пераход ускладняўся тым, што ў Гватэмалу мы зайшлі нелегальна і ў нашых пашпартах не было ніякіх штампікаў пра выхад з Мексікі і ўваход у Гватэмалу. Трэба і гэтую мяжу прайсці незаўважанымі.

Мы бравым крокам накіраваліся перасякаць мяжу. «Буэнас дзіас!» — радасна павіталіся з дзядзечкам, які трымаў шлагбаум за вяровачку. «Буэнас дзіас!» — адказаў той, таргануў за вяровачку, і шлагбаум падняўся.

Параўняліся з будынкам міграцыйнай службы, павіталіся з супрацоўнікамі, якія выйшлі на ганак пакурыць, і нахабна пакрочылі далей. Раптам ззаду чуем свіст. Супрацоўнікі тыцкаюць пальцам у дзверы, якія мы толькі што абмінулі. Ну што ж. Трэба ісці.

— Дзе ўваходзілі ў Гватэмалу?

— У горадзе Месія.

— Дзе вашыя штампікі аб перасячэнні мяжы?

— Нам не паставілі.

— Мы не можам вас выпусціць з краіны. Вам трэба вярнуцца на мексіканска-гватэмальскую мяжу і паставіць штампы.

— Але гэта вельмі далёка. І ў нас праз два дні фестываль у Гандурасе ...

Пакуль мы размаўляем з двума супрацоўнікамі міграцыйнай службы, астатнія фатаграфуюцца ля вялізнага пірага, на якім напісана: «З днём нараджэння!» Настрой ва ўсіх цудоўны.

— Тады трэба заплаціць штраф. 25 баксаў з кожнага.

— А давайце вы нам не паставіце штамп аб выхадзе з краіны. Няма ўваходу — няма выхаду.

Суразмоўца прасоўвае нашыя пашпарты ў акенца і кажа: «Шчаслівай дарогі!»

Нейтральная паласа. Рукі ўсё яшчэ крыху трымцяць ад хвалявання. З Гватэмалы нас выпусцілі. А ці ўпусцяць у Гандурас? З такімі думкамі, апусціўшы вочы долу, я ішла да мяжы з Гандурасам. Раптам перад маімі вачыма з'явіўся стос грошай — гватэмальскія кецалі, гандураскія лемпіры. Не доўга думаючы, пачалі з Вераснем іх падбіраць. Толькі паднялі апошнюю купюру, пад'язджае маршрутка. Добры вадзіла запрашае нас да сябе бясплатна. І мы даязджаем да гандураскай мяжы.

«Там іміграцыйная служба,» — на развітанне паказвае маршрутчык. «Ага,» — толькі і кажам мы і спяшаемся абысці бокам гэты будынак. Б'енбэнідас, Гандурас!

### Рабінзанада ў Гандурасе

Двое сутак мы дабіраліся да месца фестывалю — вострава Тыгра ў Ціхім акіяне. Сам фестываль праходзіў побач на яшчэ адным маленькім ненаселеным востраве пад назваю Эль Пака.

Два разы на суткі там прыліў змяняе адліў. І калі вада саступае на пару гадзінаў, з вострава Тыгра на Эль Пака можна было дабрацца ўброд. Мы з Вераснем крыху спазніліся да адліву. І пераходзіць давялося па шыю ў вадзе, трымаючы над галавою заплечнікі.

Інструменты пакінулі на беразе. І як толькі дабраліся да астатніх табурэтнікаў, папрасілі іх зганяць за гітарай і скрыпкай, пакуль вада не паднялася канчаткова. Ратуючы інструменты, рабяты ледзь не захлынуліся. Яны падмянялі адзін аднаго, плывучы адной рукой, другой — трымаючы скрыпку ці гітару. І ўсё ж гітара паплыла па вадзе. А Вераснеў фоцік «Агат» так і не ўдалося ўратаваць.

На некалькі дзён мы акупавалі Эль Пака. Лавілі ў акіяне рыбу, у час адліву збіралі пад камянямі малюскаў, прымалі сонечныя ванны, любаваліся вулканам і спявалі.



Гандурас.

**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.



Табурэтнікі на выспе Эль Пака.

## Легалізацыя ў Нікарагуа

Паліцэйскі кантроль на дарогах Гандураса праз кожныя пару кіламетраў. Правяраюць дакументы не толькі ў кіроўцы, але і ў нас. Усё з-за леташняга ваеннага перавароту. Тады прэзідэнт Гандураса Мануэль Селая ініцыяваў рэферэндум аб праве балатавацца на другі тэрмін (па законе, прэзідэнт тут можа балатавацца толькі раз). Праціўнікі рэферэндуму захапілі Селаю і вывезлі ў Коста-Рыку. Вярхоўны суд і парламент падтрымалі мяцежнікаў. Краіна выбрала новага прэзідэнта, а былы — пад пагрозай арышту з'ехаў у Дамініканскую рэспубліку.

Наш кіроўца запальвае недакураны касяк і хваліцца, што шэсць год пражыў у Каліфорніі, зарабіў сабе на гэты грузавік. На пытанне, дзе працаваў, спакойна адказвае: «Гандляваў наркотыкамі».

Перад самай мяжою мы развітваемся. Досвед нелегальнага праходу дзвюх межаў даў свае плады. Абмінаем гандураскую міграцыйную службу. Аднак на выхадзе нас спыняюць чувакі ў форме. Кажуць, давайце талоны. «Якія талоны? Нам нічога не далі,» — уключаем дурня мы.

Аднак ваяка нас прапускаць не хоча. «Добра, — кажам мы. — Зараз вернемся па талоны» (а самі думаем, у якую ж дзірку ў плоце нам пралезці, каб абмінуць іх). «Не-не-не,» —круціць пальцам хлопчык-жаўнер. І паказвае яшчэ адзін жэст рукою — «дай бабла». Мы вырашаем, што гэта найлепшы варыянт і аддаём яму ўсе нашыя грошы ў нацыянальнай валюце — каля трох баксаў.

На нікарагуанскім баку — шлагбаум! «Талончыкі, калі ласка». Усе просьбы — марныя. Ліст падтрымкі не дапамагае. Нават 20 баксаў «на лапу» не хочуць узяць. І мы зноў, мінаючы нядаўна разбагацеўшых на тры баксы жаўнерыкаў, вяртаемся ў Гандурас.

Там пра нас ужо ведаюць. Перад намі паўстаюць тры варыянты дзеянняў. Першы — вярнуцца на гватэмальска-гандураскую мяжу і заплаціць там прапанаваныя раней 25 баксаў на кожнага. Але гэта мінімум чатыры дні на дарогу. Другі — заплаціць на месцы штраф 146 баксаў на кожнага. Нас легалізоўваюць, і далей мы бестурботна працягваем свой шлях. Трэці — чакаць цемры і шукаць нелегальны шлях праз мяжу. Але на мяжы з Коста-Рыкай у нас могуць узнікнуць яшчэ большыя праблемы. Заканчваюцца краіны Цэнтральнаамерыканскага саюза — Гватэмала, Сальвадор, Гандурас, Нікарагуа — з адзінай візавай зонай.

Мы выбіраем другі варыянт. Плацім штраф. Нам ставяць штампікі ў пашпарт. На развітанне начальнік абдымае Верасня, цалуе мяне, цісне нам рукі і жадае ўдачы. З такім задавальненнем такія грошы я яшчэ ніколі не аддавала.

Дарэчы, Нікарагуа — вельмі сельскагаспадарчая краіна. Амаль у кожным двары тут стаіць па трактары «Беларус», а то і па некалькі.

## Нікарагуа — і ў Афрыцы Нікарагуа

Мы едзем у сталіцу Нікарагуа — горад Манагуа. Ён сустракае нас пустыннымі вуліцамі, дзе час ад часу праходзіць які-небудзь чалавек і не забывае нам сказаць, што тут «муі пелігроса» (вельмі небяспечна). І што ўвогуле, як мы тут апынуліся адны і што мы тут робім.

За вечар, калі мы шукалі сабе начлег, нас разоў 15 папярэдзілі пра «муі пелігроса». Настала ноч, а прытулку мы так і не знайшлі. Адзіным жывым месцам у раёне аказалася казіно. Мы падышлі да дзвярэй. Да нас выйшаў ахоўнік. Выслухаўшы нашую гісторыю, ён паклікаў кампанію жанчынаў. Тыя паспачувалі нам, сказалі, што пусцілі б да сябе, але ў іх злыя сабакі. І павезлі нас у нейкае месца, дзе мы можам «за танна ўпісацца».

Гэтым месцам апынулася каморка, прыбудаваная да дома. Ні ложка, ні вокнаў. Раніцай мы заплацілі гаспадыні 100 кардобаў (каля 5 баксаў) і павалілі ў Гранаду, горад на беразе возера Нікарагуа, дзе ўжо чакалі нас іншыя табурэтнікі. Жаданне заставацца ў Манагуа і працягваць тэрмін перабывання ў краіне адпала.

## Багаты бераг

Коста-Рыка — самая багатая краіна ў Цэнтральнай Амерыцы. Кошты тут, як у ЗША. І аўтаспын такой жа паспяховасці. Мы ўжо згубілі надзею злавіць кагосьці, як чарговыя фары асвятлілі нашыя флікеры. Нам спыніўся Пабла.

Пабла выдатна гаварыў па-ангельску. Мы ўжо адвыклі ад гэтага ў Цэнтральнай Амерыцы. Аказваецца, тут амаль кожны першы ведае ангельскую.

84% костарыканцаў — белыя. Усё таму, што ў дакалумбавыя часы тэрыторыя краіны амаль не была заселеная. Ды і асваенне яе іспанцамі ішло вельмі марудна з-за неспрыяльных кліматычных умоваў і адсутнасці карысных выкапняў. І ўжо тым больш у Коста-Рыку не прывозілі чорных рабоў. У асноўным тут сяліліся бедныя перасяленцы з Іспаніі. Буйныя плантацыі тут не было сэнсу ствараць, хіба што дробныя гаспадаркі.

І ўсё ж невялікая колькасць чорных тут ёсць. Большасць з іх — беглыя рабы ці піраты, якія пасяліліся на Атлантычным узбярэжжы.

Коста-Рыка — першая ў свеце краіна, якая ў 1949 годзе адмяніла армію. І падобна на тое, што правільна. З таго часу краіна не ўдзельнічала ў ваенных канфліктах, а багацце толькі павялічваецца. У пошуках большага заробку сюды з'язджаюцца людзі з Нікарагуа, Гандураса, Панамы. Кожнай маладой сям'і, якая не мае ўласнага жылля, улады бясплатна будуюць дом. Праўда, варта зазначыць, што амаль кожны дом тут агароджаны вялізным плотам, калючым дротам, да якога яшчэ часам праведзеная электрычнасць.

Пабла, ачуняўшы ад беларускіх спеваў, запрасіў мяне, Верасня і Кірыла да сябе дадому на ноч. Мы пагадзіліся. Дома нас чакала дзяўчына Пабла, Андрэа.

Пра Андрэа я нават хацела б зняць фільм. Такіх цудоўных людзей з такім цяжкім лёсам рэдка сустракаеш у жыцці. У 17 год яна збегла з дому — бацькі яе сэксуальна дамагаліся. Шмат год калясіла па Лацінскай Амерыцы. Выжывала, як магла. Часам бамжавала, часам працавала ў казіно і зарабляла шалёныя грошы. Перад прыездам у сталіцу Коста-Рыкі Сан-Хасэ працавала ў французскім рэстаране, дзе адна з умоваў дрэскода для афіцыянтак была — хадзіць босымі. За час працы ў гэтым рэстаране Андрэа так звыклася хадзіць босай, што больш нідзе не абувалася. У яе нават не было абутку.

Тры месяцы таму Андрэа выразалі дзве злаякасныя пухліны з грудзей. «Хочаш пакажу»? — пытаецца ў мяне Андрэа і агаляе свой яшчэ свежы шнар. «Каб вы ведалі, як я люблю жыццё! Я думаю, Бог паслаў мне рак, таму што я моцная і магу ўсё вытрымаць», — кажа яна.

Андрэа і Пабла — абсалютна розныя. Пабла — дамашні і ціхі мужчына, які пачаў самастойнае жыццё толькі ў 28 год. Кожны дзень тэлефануе бацькам, не любіць падарожнічаць і нават не выходзіць з Андрэа на прагулку ў цэнтр горада, перасоўваецца выключна на машыне. Андрэа захапляецца дабрынёю Пабла, аднак сама пасля 17 год ні разу не тэлефанавала бацькам і ў любую хвіліну гатовая сарвацца ды далучыцца да нашага падарожжа. Аднак не можа. Кажа: «Мне засталося паўтара года. Хачу гэты час правесці з сынам».

Мы правялі з Андрэа і Пабла цэлы тыдзень. Яны вазілі нас па клубах Сан-Хасэ, дзе мы выступалі і зарабілі крыху грошай.

У адным з іх выступалі на разагрэве ў знакамітага ў Коста-Рыцы выканаўца фламенка.

У іншым сустрэлі дзяўчыну Наташу, бацька якой паходзіў з Украіны. «Наташа Кашмар», — працягвае мне руку дзяўчына. «Кашмар?» — мы з Кірылам і Вераснем ва ўнісон заліваемся смехам. «Табе бацька не казаў, што значыць тваё прозвішча?..» «Цяпер усё ясна», — шматзначна зазначыў яе хлопец.

## Адзіос, Коста-Рыка!

Коста-Рыку за пару гадзінаў можна праехаць з Атлантычнага ўзбярэжжа на Ціхае. Мы пабывалі на абодвух акіянах. Ціхі парадаваў нас самымі вялікімі хвалямі, якія мы бачылі ў жыцці, і першымі спробамі сапраўднага сёрфінга.

У горадзе Пуэрто Бьехо на Карыбскім моры мы ўпершыню начавалі ў гамаках.

Праз два дні мы рушылі да мяжы з Панамай. Па дарозе праязджалі велічэзныя бананавыя плантацыі і бананавыя фабрыкі.

На картах гэтага памежнага пераходу няма. Але насамрэч ён існуе. Тут па чыгуначным мосце з Коста-Рыкі ў Панаму і наадварот едуць грузавікі і ідуць пешаходы.

«Ідзіце вось за гэтым мужчынам. Ён вам пакажа, дзе купіць,» — сказаў нам праз акенца памежнік. Што купіць, мы не зразумелі. Аднак «гэты мужчына» хутка ўсё патлумачыў. Мы мусім купіць квіткі на самалёт ці аўтобус з Панамы, каб пацвердзіць, што мы не маем намеру заставацца ў краіне. Тое, што квіткі падробныя, ведаюць і іх прадаўцы, і памежнікі, і самі турысты. Аднак такое правіла, тлумачыць нам дзядзечка.

Я кажу, што лішніх грошай у нас няма і мы ўсе ведаем, што па гэтых квітках мы нікуды не паляцім. Які сэнс тады іх купляць? «Такое правіла», — чарговы раз бубніць дзядзечка. «Тут нядаўна белы чалавек забіў семярых нашых». «І што? — пытаюся я. — Калі я куплю квіток на самалёт — гэта гарантуе, што я нікога не заб'ю»?

Тут у нашую размову ўкліньваецца амерыканскі турыст, які толькі-толькі здаў памежніку ў акенцы свае дакументы з квітком. «Яны проста хочуць упэўніцца, што вы пакінеце краіну!» «Але квіток — гэта не доказ. Я магу купіць яго і ўсё роўна застацца ў Панаме!» — пачынаю ўжо злавацца я. «Такія правілы,» — паціскаючы плячыма, зазначыў турыст.

Прашу паразмаўляць з шэфам. Мне кажуць, што шэф — гэта і ёсць той самы памежнік у акенцы і ў нас няма ніякіх шанцаў прайсці мяжу, не купіўшы квітка. Аднак шанец у мяне ёсць. І я яго выкарыстоўваю, прасоўваючы шэфу нашыя пашпарты разам з лістом падтрымкі і коратка расказваючы сутнасць нашага падарожжа аўтаспынам. Ліст падтрымкі — амаль адзіны пасля пашпарта наш дакумент, дзе розныя арганізацыі з розных краінаў ставяць нам свае штампікі, тым самым падтрымліваючы нашую экспедыцыю. Не гаворачы ні слова, шэф штампуе адзін за другім пашпарты, ставіць штамп у ліст падтрымкі і жадае нам «б'ен б'яхэ» (добрага падарожжа).

**Паводле euroradio.by**

**Працяг будзе.**




**У Нікарагуа трактар «Беларус» — амаль член сям'і.**



**Наташа Кашмар і яе хлопец.**



**Бесклапотныя сёрферы Коста-Рыкі.**

# «Бітва пад Улай»:
## гісторыя неапублікаванай паэмы Мацея Стрыйкоўскага

Піша гісторык **Алег Дзярновіч**.

Студзеньскімі днямі, толькі ў 1564 годзе, адбылася адна значная бітва Інфлянцкай вайны, у якой войскі Вялікага Княства выкарысталі нестандартную тактыку. Гэтай бітве прысвечана пакуль яшчэ неапублікаваная паэма Мацея Стрыйкоўскага.

### Першы гістарыёграф

У гісторыі Вялікага Княства Літоўскага постаць Мацея Стрыйкоўскага ўнікальная. Паляк з паходжання — нарадзіўся ён у 1547 г. каля Лодзі, — 16-гадовым Стрыйкоўскі апынуўся ў Вялікім Княстве, дзе яму давялося не проста спазнаць шмат якія павароты лёсу, але і скончыць свой зямны шлях.

На сваёй новай Радзіме ён стаў прафесійным вайскоўцам, служыў у Віцебскім гарнізоне, а таксама рыскуном (выведнікам) на маскоўскай мяжы.

Было нешта нязвыклае ў гэтым чалавеку, бо старыя княскія роды Вялікага Княства ахвотна набліжалі да сябе маладога чалавека, які меў ужо немалы вайсковы досвед, а да таго ж атрымаў пэўную адукацыю.

Для нас жа найболып важнае тое, што Стрыйкоўскі стаў аўтарам першай друкаванай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага — «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі», якая ўпершыню выйшла з друку ў Каралявцы (так называлі нашы продкі-беларусы горад Кёнігсберг, цяпер — Калінінград) у 1582 г.

### Раптоўная знаходка

Але сярод творчай спадчыны Мацея Стрыйкоўскага ёсць адзін твор, знаходжанне якога працяглы час заставалася невядомым і вакол якога ў XIX ст. узніклі легенды.

Гаворка ідзе пра рукапіс ранняга твора Стрыйкоўскага — паэмы «Бітва пад Улай», які патрапіў у так званую Калекцыю Анацэвіча і сёння захоўваецца ў фондзе пад такой жа назвай у зборах Інстытута Расійскай Літаратуры (Пушкінскім Доме) РАН у Санкт-Пецярбурзе.

Калекцыя Анацэвіча, у якой і знаходзіўся рукапіс твора, была выпадкова выяўленая ў канцы 1970-х гадоў у Маскве сярод неразабраных матэрыялаў архіва Інстытута сусветнай літаратуры Акадэміі навук СССР.

### Гісторыя рукапіса

Першае вядомае нам сховішча, у якім захоўваўся рукапіс Стрыйкоўскага, — гэта Архіў Радзівілаў. Радзівілы былі мецэнатамі паэта-храніста.

Ад Радзівілаў рукапіс набылі браты Залускія. Гэта яшчэ адныя пасіянарыі. 8 жніўня 1747 г. паводле ініцыятывы Юзафа Анджэя (1702—1774) і Анджэя Станіслава (1695—1758) Залускіх у Варшаве была адчынена першая ў Рэчы Паспалітай публічная бібліятэка. Аснову яе склала іх асабістая калекцыя. Фактычна, гэта была адна з першых у Еўропе нацыянальных бібліятэк.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай Бібліятэка Залускіх была абвешчана ўласнасцю расійскага ўрада і імператрыца Кацярына II распарадзілася перавезці яе — падводамі да Рыгі, а адтуль морам — у Санкт-Пецярбург. Яна стала асновай для замежнага фонду Імператарскай Публічнай бібліятэкі (сёння — Расійская Нацыянальная Бібліятэка). Так вывозіліся ў цэнтр імперыі і беларускія нацыянальныя скарбы...

Менавіта ў фондах Публічнай бібліятэкі знайшоў гэты рукапіс наш суайчыннік і вялікі арыгінал Ігнат Анацэвіч (1780—1845).

### Анацэвіч як збіральнік рукапісаў

Гэты ўраджэнец Малой Бераставіцы атрымаў адукацыю ў Каралеўцы і Вільні. Ён выкладаў у Віленскім універсітэце, дзе іспыт яму здаваў Адам Міцкевіч, а лекцыі наведваў Юліюш Славацкі.

Універсітэцкая кар'ера Ігната Анацэвіча перапынілася ў 1828 г. Два сюжэты сышліся ў тым фатальным для Анацэвіча годзе: найперш, такім сталася раскрыццё таемнага студэнцкага таварыства «Племя сарматаў», да якога прафесар не меў прамога дачынення, але сярод удзельнікаў якога карыстаўся вялікім аўтарытэтам; а таксама настойлівасць самога Анацэвіча ў расследаванні фінансавых злоўжыванняў універсітэцкай адміністрацыяй. У выніку Ігнат Анацэвіч быў адхілены ад прафесарскай пасады, а пазней і сасланы на радзіму — у Малую Бераставіцу. Дайшло да судовага працэсу, але Гродзенскі гродскі суд апраўдаў былога прафесара.

Анацэвіч скіраваўся ў сталіцу Расійскай імперыі. Там ён на заданне Археаграфічнай камісіі разбіраў рукапісы ў Публічнай бібліятэцы і бібліятэцы Генштаба. Менавіта ў гэтых установах апынуліся шматлікія матэрыялы з канфіскаваных у былой Рэчы Паспалітай збораў. Яны ляжалі там, зваленыя без ладу і ўліку, што было прычынай цалай чарады скандалаў. Пад падазрэнне патрапіў і Анацэвіч. Выглядае, што не беспадстаўна. Праўдападобна, што Анацэвіч сапраўды «запазычыў» рукапіс Стрыйкоўскага.

### Бітва пад Улай

Але ўласна пра якія падзеі распавядае твор Стрыйкоўскага?

У цэнтры аповеда знаходзіцца адна падзея з часоў Інфлянцкай (у расійскай традыцыі — Лівонскай) вайны.

Зімой 1564 года з Полацка, які маскоўскія войскі захапілі ў 1563-м, на поўдзень выступілі аддзелы ваяводы Пятра Шуйскага. Яны налічвалі, паводле розных дадзеных, ад 18 да 30 тыс. ратнікаў. Адначасова са Смаленска на захад рухалася 50-тысячнае войска князёў Сярэбраных. Гэтыя дзве групоўкі мусілі злучыцца заходней Оршы і рухацца далей на Менск, Навагрудак і, верагодна, Вільню. Зімовы паход 1564 г. па сваіх маштабах быў вельмі значнай падзеяй: войскам кіравалі чальцы Баярскай Думы і татарскія царэвічы, якія ўваходзілі ў найвышэйшую дзяржаўную эліту.



Партрэт Мацея Стрыйкоўскага ў кёнігсбергскім выданні «Хронікі Польшчы, Літвы, Жамойці і ўсёй Русі» (1582). Змяшчэнне аўтарамі ўласных партрэтаў у сваіх выданнях — рыса рэнесанснай культуры.


Ігнат Жэгота Анацэвіч, уладальнік рукапісу паэмы Стрыйкоўскага ў першай палове XIX ст. Партрэт выкананы В.Радзігам паводле малюнка К.Жукоўскага.

У Метрыцы ВКЛ было адзначана, што маскоўскае войска з Полацка «мела іці да Друцких палей чэраз панства Яго Каралеўскай міласці, чынячы плен і шкоду...»

Што мог супрацьпаставіць літвінскі бок? Гетман найвышэйшы Мікалай Радзівіл Руды і гетман польны Рыгор Хадкевіч мелі пад сваёй камандай толькі 8—10 тыс. конніцы і пяхоты ды знаходзіліся ў гэты момант каля Чашнікаў. Як паведамляюць усе крыніцы, у літвінаў была добра пастаўлена разведка — ну ясна, у сябе ж на радзіме. Гетманы Радзівіл і Хадкевіч, яўна саступаючы ў колькасці войска, вырашылі не дапусціць злучэння дзвюх груповак непрыяцеля і нанесці апераджальны ўдар па экспедыцыйным корпусе Шуйскага.

Надвячоркам ля вёскі Іваньск, цяпер гэта Чашніцкі раён, войска Вялікага Княства спаткала маскавітаў. Спачатку франтальным ударам, а потым атакамі з тылу разграміла лагер Шуйскага. Пры адступленні загінуў і сам ваявода.

Агульныя страты маскоўскага войска ацэньваюцца ў 9 тыс. палеглых. Апроч Шуйскага, загінулі князі Палецкія, Празароўскі, Адоеўскі, Захар'ін.

Непасрэдна ў бітве ўдзельнічала толькі частка літвінскага войска — з прычыны хуткага руху конніцы да месца бітвы не змаглі дайсці пешыя роты і артылерыя. Гэта была хутчэй сеча, чым адкрытая бітва ў класічным выглядзе.

Такім чынам, прынцыповым у той бітве стаў фактар нечаканасці і добрая разведка.

Князь Сярэбраны, які ўжо стаяў пад Оршай, пасля сутычкі з авангардам Філона Кміты адступіў пад Смаленск.

### Агент Радзівіла — праваслаўны святар

Сам Мацей Стрыйкоўскі не ўдзельнічаў у той бітве, бо служыў тады ў Віцебскім гарнізоне. Але, едучы ў 1573 г. у Віцебск праз знакамітае тады Іваньскае поле, адзначыў у сваёй «Хроніцы», што бачыў «вялікі стог, складзены з касцей маскоўскіх».

Што новага дадае нам да разумення падзей вакол бітвы паэма Стрыйкоўскага? Апроч услаўлення Радзівіла і Хадкевіча, гістарыёграф падае некаторыя дэталі, якія адсутнічаюць у іншых помніках, дзе апісваецца гэтая бітва.

Так, робіцца зразумелым, хто дапамог Радзівілу з інфармацыяй, — паводле Стрыйкоўскага, гетман «меў пры сабе папа, які бываў у Полацку, што ўжываў хітрасць Адысея». Такім чынам, звесткі, як Шуйскі выправіўся ў паход, прывёз гетману праваслаўны святар.

### За марадзёрства — пакаранне

Ёсць і яшчэ адзін важны сюжэт у паэме. Вядома, што Шуйскага забіў сякерай мясцовы селянін і утапіў цела ваяводы ў студні. Чаму ў калодзежы? Была марозная зіма і капаць магілу — доўга і цяжка.

З гэтага эпізоду можна было б стварыць цэлы патрыятычны наратыў — як беларускі селянін забівае маскоўскага акупанта. Але Стрыйкоўскі дадае нам важныя дэталі: калі Шуйскі ўцякаў, то

«прыйшоў да селяніна ў ланцужку залатым
і прасіў да Полацка адвесці яго жывым».

Вось дзеля гэтага ланцужка селянін і забіў Шуйскага. Калі ж цела маскоўскага ваяводы было знойдзена, Радзівіл распарадзіўся дастаць са студні цела забітага маскоўскага ваяводы, а «халопу гэтаму, спакушанаму ланцужком залатым, загадаў адсекчы галаву, бо ў Каіна цноты не важаць». Гетман расцаніў учынак селяніна як марадзёрства, што строга каралася ў ваенны час.

Сам твор прасякнуты павагай да працаўніка. У Стрыйкоўскага ёсць менавіта ворагі, але няма варвараў. Гэтым якасцям у вялікага гістарыёграфа варта павучыцца.


Выява «бестыі» (насарога?) і меркаваны аўтограф Мацея Стрыйкоўскага (справа) са «Зборніка Стрыйкоўскага» ў Пушкінскім Доме. У тэксце вядзецца гаворка, што аўтар сам бачыў гэтага звера, якога прывезлі паказаць султану, у садзе пры Святой Сафіі ў Канстанцінопалі ў 1574 г. Мацей Стрыйкоўскі сапраўды ў 1574 г. ездзіў з пасольствам у Канстанцінопаль.


Ілюстрацыя пра бітву пад Улай з «Ліцавога свода» — помніка афіцыйнай маскоўскай гістарыяграфіі, створанага паводле загаду Івана IV: «Літоўскія ж людзі прыйшлі, праз паўгадзіны, хутка і пярэдніх людзей паграмілі, і ў той справе баярына князя Пятра Шуйскага забілі... і іншых дзяцей баярскіх узялі, і кашы [абоз] ваяводскія, і дзяцей баярскіх усіх спаймалі».



## Памяці Віталя Тараса

18 студзеня ўначы на 55-м годзе жыцця памёр шматгадовы аўтар «НН», публіцыст, сябар Беларускага ПЭН-цэнтра і Беларускай асацыяцыі журналістаў Віталь Тарас. Ён доўга і цяжка змагаўся з анкалагічным захворваннем.

Пахавалі яго на Паўночных могілках Мінска, дзе раней спачыў яго бацька, пісьменнік і ветэран Валянцін Тарас.

Віталь Тарас нарадзіўся 6 мая 1956 года ў Мінску. Скончыў журфак БДУ. Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у газетах «Літаратура і мастацтва», «Культура», расійскай «Общей газете».

Як толькі з'явілася магчымасць, ён смела выбраў працу ў незалежных СМІ перад дзяржаўнымі. Пасля ён зробіць яшчэ адзін прынцыповы выбар — вернецца з радыё «Свабода» і пяройдзе супрацоўнічаць з «Нашай Нівай» і падпольнымі выданнямі. Хоць «НН» прыносіла мала грошай, а падпольныя выданні спрычынялі рызыку і стрэсы.

Тарас — лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра за 1996 год. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг публіцыстыкі «Звыклае зло», «Хроніка бягучых падзей».

Гэта быў унікальны публіцыст са стылем, які немагчыма было зблытаць.

Калектыў «НН» смуткуе разам з роднымі Віталя Тараса.

# Віталь Тарас: Я прадаўся адзін раз

«Некалі Генры Форд вельмі дасціпна сказаў: «Сумленны журналіст прадаецца толькі адзін раз». Ну, дык вось, я «прадаўся» сваёй прафесіі аднойчы і назаўсёды, — пісаў Віталь Тарас, адказваючы на пытанні для кнігі Аляксандра Тамковіча «Інтэрв'ю, якіх не было». — ...Даволі доўгі час у маладосці плыў па плыні. Пры канцы 70-х гадоў «прыплыў» на Беларускае тэлебачанне — працаваў спачатку ў рэдакцыі навукова-папулярных праграм, потым у рэдакцыі інфармацыі. У сэнсе прапаганды цяперашніе БТ дасць тагачаснаму сто пунктаў наперад. Аднак тады ў Беларусі, як і ва ўсім СССР, не было іншага (недзяржаўнага) тэлебачання. Ніхто пра гэта нават марыць не мог. На дзяржтэлерадыё працавалі і сапраўдныя прафесіяналы — майстры сваёй справы.

...У мяне рэдактарская служба выпрацавала цвярозы погляд на працу на тэлебачанні, якое тады многія ў грамадстве ўспрымалі як нешта надзвычай прэстыжнае, прыцягальнае і таемнае. На маёй памяці Галоўная рэдакцыя інфармацыі ў пачатку 80-х ператварылася ў свайго роду пахавальную каманду — тады адзін за адным паміралі генсакі ЦК КПСС (а ў прамежку памёр яшчэ і першы сакратар ЦК КПБ Кісялёў). Шараговым рэдактарам трэба было збіраць пра нябожчыкаў водгукі «плакальшчыкаў» — рабочых, навуковых работнікаў, пісьменнікаў, музыкантаў, ахопленых «пачуццём вялікай страты, якую панёс увесь савецкі народ». Пры гэтым і журналісты, і большасць «плакальшчыкаў» успрымалі сітуацыю досыць цынічна, з іроніяй і самаіроніяй.

А ўвогуле, у сілу індывідуальных рыс характару, я не люблю працаваць у калектыве. Праца ў любой канторы, нават калі гэта офіс самай прэстыжнай рэдакцыі з добрай зарплатай, мне заўсёды давалася цяжка. Хоць і разумею, што журналісцкая праца ў камандзе заўсёды больш эфектыўная.

...З дзіцячых «гарадскіх» успамінаў — доўгая чарга за батонамі ў краму і «наш дарагі» Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у дзвярах урадавага вагона на Мінскім чыгуначным вакзале. Я за ім назіраў, седзячы на плячах майго дзеда Змітра.

...Недзе ў класе пятым спрабаваў напісаць навукова-фантастычную аповесць. Яна пачыналася словамі: «Гелена смажыла касмічныя катлеты». Рогат маіх бацькоў, якім я пачаў быў чытаць свой опус, назаўсёды адбіў ахвоту пісаць фантастыку...

...Заўсёды лічыў і лічу, што самае вялікае шчасце — гэта калі твая прафесія і любімы занятак (хобі) супадаюць. А калі табе за гэта яшчэ часам і плацяць!..

З гадамі назапашваецца стомленасць ад прафесіі. Пачынаеш баяцца паўтарыцца, напісаць нешта банальнае, збіцца на трафарэт. Але ніколі не ўзнікала жаданне змяніць прафесію.

...Пасля няўдалай спробы вучыцца на біяфаку пайшоў адразу не ў журналістыку, а грузчыкам у ПМК. Нейкі час быў падсобным рабочым у друкарні, лабарантам у бібліятэцы. Мае знаёмыя жартавалі: робіш сабе аўтабіяграфію на будучыню! Насамрэч гэтая праца найперш пазбавіла ад некаторых ілюзій і радасных уяўленняў — пра рабочы клас, напрыклад, ці пра спалучэнне фізічнага і духоўнага пачаткаў у чалавеку.

Гэтае пазбаўленне ад ілюзій, веданне «што па чым», дапамагло потым і ў прафесіі, і проста ў жыцці. Больш за ўсё на свеце не люблю пафас.

Ну а на вячэрнім журфаку я пазнаёміўся — сярод іншых аднакурснікаў — з Ігарам Герменчуком (светлая яму памяць) і Сяргеем Дубаўцом. І хоць яны потым перавяліся на дзённае аддзяленне, знаёмства з гэтымі асобамі, безумоўна, таксама паўплывала на выбар прафесіі.

Пытання, з кім быць і як сябе паводзіць у гэтым жыцці, пасля ніколі не ўзнікала».

### СПАЧУВАННІ ПРАЗ NN.BY

Адмаўляюся верыць хаця б у нейкую справядлівасць на гэтым свеце...

**Сяргей Ваганаў**

Шчырыя спачуванні родным і блізкім гэтага добрага чалавека і сапраўднага грамадзяніна.

**Алесь Манцэвіч**

Аленачка, Антось, трымайцеся. Вялікае гора. Светлая памяць Віталю. Хай яму зямелька будзе пухам.

**Людвіка, Паўліна, Сяржук Вітушкі**

Спачуванні родным і блізкім. Добры, разумны і шчыры быў чалавек.

**Аўген Сідорык**

Мае спачуванні родным і блізкім. Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць.

**Руслан Равяка**

Смуткую і спачуваю. Слоў — няма, толькі — пачуцці...

**Аляксандр Тамковіч**

Жудаснае гора — у свеце стала яшчэ менш разумных людзей.

**Аляксей з Тулы**

Светлы чалавек пайшоў. Светлы, мужны, прыгожы. Вечная памяць, спачуванні блізкім. Трымайцеся!

**Вольга Гардзейчык**

Як нечакана... Не магу паверыць! Толькі яго чытала! Шчыра смуткуем і спачуваем родным спадара Віталя, сапраўднага беларускага інтэлігента, добрага чалавека... У такі смутны час ад нас сыходзяць гэткія людзі, не пабачыўшы Перамогі...

**Таццяна Снітко**

Годна жыў, годна сыходзіў. Шчырыя спачуванні блізкім.

**Міхал Анемпадыстаў**

Светлая памяць!.. Шкада, што не будзе больш яго шматслойных эсэразважанняў...

**Дзмітрый Вінчэўскі**

Шчырыя спачуванні сям'і і блізкім. Лепшыя заўсёды сыходзяць маладымі.

**Дар'я Каткоўская**

Не верыцца. Віталя памятаю як сціплага, унутранага, ціхага чалавека. Можна толькі здагадвацца, якія жарсці віравалі ў яго ўнутры. Часам я чытала ягоныя выступы ў «НН», знаходзячы гэтаму пацвярджэнне. Клімат у РБ відавочна паскарае сыход з жыцця добрых людзей. Штодзень па некалькі разоў на дзень лезу ў інтэрнэт, каб даведацца апошнія навіны. Сэрцам і думкамі з тымі, што сёння зазналі рэпрэсіі. Перажываю за іх, як за самых блізкіх людзей. Тым больш што сярод зняволеных ёсць тыя, каго ведала многія гады. І ўсёткі веру: «Загляне сонца і ў наша ваконца!». А Лене, жонцы Віталіка, выказваю свае шчырыя спачуванні. Трымайся! Хай Віталіку будзе пухам зямля!

**Галіна Айзенштадт, Ізраіль**

Вечная памяць добраму і разумнаму чалавеку. Шчырыя спачуванні родным і блізкім.

**Ігар Лялькоў**

# Васілю Сёмуху — 75

Перакладчык Бібліі на беларускую адзначыў юбілей 18 студзеня.



Васіль Сёмуха нарадзіўся на хутары Ясенец у Пружанскім раёне. У шасцігадовым узросце страціў бацькоў: нацысты расстралялі іх за сувязь з партызанамі. Але сямейная трагедыя не стала для яго бар'ерам у знаёмстве з нямецкай культурай. Ён зрабіў знакамітыя пераклады на беларускую «Фаўста» Гётэ, «Так сказаў Заратустра» Ніцшэ, «Мефіста» Клаўса Мана, «Кнігі гадзін», «Парфумы» Зюскінда.

А пасля была Біблія...

Мала хто памятае, што ў 1967-м перакладчык звярнуўся да міністра замежных спраў БССР з незвычайнай просьбай. Ён прапанаваў запрасіць ва ўрада ФРГ кампенсацыю за страчаную ім маёмасць. А на атрыманыя грошы выдаць свой пераклад «Фаўста». У выніку Васіля Сёмуху выключылі з Саюза пісьменнікаў.

Ён кавалер ордэна «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй», латвійскага «Ордэна трох крыжоў».

Многая лета і многіх перакладаў, дзядзька Васіль!

**Кастусь Матушыч**

## Здарэнні

• **Расстраляў жонку, трохгадовую дачку і забіў сябе.** Інцыдэнт адбыўся позна ўвечары ў Шчучыне падчас сваркі. Мужчына дастаў з сейфа двувохрулевую стрэльбу «ІЖ-43 ЕМ» 12-га калібра і зрабіў два прыцэльныя стрэлы ў жонку 1979 года нараджэння і малую дачку 2007 года. Пасля гэтага ён стрэліў сабе ў галаву. Малая дачка памерла ў рэанімацыйным аддзяленні, маці знаходзіцца ў цяжкім стане. Паводле папярэдніх звестак, прычынай стаў развод у сям'і.

• **Іспанская паліцыя ліквідавала банду порнадзялкоў з Беларусі.** Іспанская паліцыя арыштавала 49 членаў злачыннай групы, якая стварыла міжнародную сетку з 200 сайтаў і прадавала праз іх дзіцячую парнаграфію. Яшчэ 15 чалавек былі затрыманыя, калі паспрабавалі падпісацца на атрыманне парнаграфічных матэрыялаў з удзелам дзяцей. Іспанскія ўлады заявілі, што злачынная арганізацыя, заснаваная ў Беларусі, зарабляла на дзіцячай парнаграфіі каля 2 млн даляраў у месяц.

• **Забраў віно пад пагрозай пісталета.** У Алёхнавічах (Маладзечаншчына) ў вясковую краму зайшоў мужчына, дастаў пісталет і, пагражаючы ім, забраў з сабой літровы кардонны пакет віна. Прадавец заявіла ў міліцыю. Па прыкметах на чыгуначным вакзале станцыі Алёхнавічы ў 15.20 аператыўнікі затрымалі 32-гадовага жыхара гэтай вёскі, які нідзе не працуе і раней быў судзімы. Знайшлі ў яго і пісталет. Зброя аказалася пнеўматычнай.

• **На закінутай ферме абваліўся дах і забіў трох чалавек.** І яшчэ трое траўмаваныя. Трагедыя здарылася ў вёсцы Дуброва на жывёлагадоўчай ферме сельгаспрадпрыемства «Кахановічы», якая не эксплуатавалася. Усе пацярпелыя — работнікі будаўнічай брыгады прадпрыемства «Кахановічы», якія працавалі на дэмантажы сельгаспабудовы. Прычынай абвалу з'яўляецца парушэнне правіл тэхнікі бяспекі.

**СМ**

# Пілігрымка па слядах Ісуса Хрыста

Ізраіль — гэта краіна, якая лічыцца Святой Зямлёй для трох рэлігій. Хрысціяне, юдэі і мусульмане з году ў год шукаюць тут слядоў Божай прысутнасці ў зямной гісторыі чалавецтва.

20—27 сакавіка адбудзецца пілігрымка беларускіх вернікаў у Святую Зямлю. Падчас паломніцтва 25 сакавіка ў Ерусаліме пад кіраўніцтвам кс. Юрыя Барка (раней працаваў у Глыбокім, а цяпер — у Ізраілі) прагучыць малітва за нашу Бацькаўшчыну Беларусь.

Ахвотных узяць удзел у Вялікім посце ў гэтым паломніцтве і паразважаць пра крыжовы шлях Божага Сына і крыжовы шлях Беларусі сардэчна запрашаем.

Падрабязнасці адносна раскладу пілігрымкі змешчаныя на сайце piligrymka.by.

**Кс. Вячаслаў Барок**




ЖАННА КАПУСНІКАВА. ПАРТРЭТ ВІДЗАМАСТАКА ДЗМІТРЫЯ ВАЙНОЎСКАГА.

**Аватары беларусаў з facebook — маслам на палотнах**

Новы сезон у галерэі сучаснага мастацтва «Ў» адчыніўся яркім праектам мастачкі Жанны Капуснікавай «ДА.О». Мастачка за месяц з хвосцікам, літаральна зачыніўшыся ў майстэрні, напісала сэрыю сюрпрызаў — партрэтаў вядомых мінчукоў, натхненнем да якіх сталі аватары ў сацыяльнай сетцы facebook: ад мастака Уладзіміра Цэслера да саміх супрацоўніц «Ў».

Выстава аб'яднала 15 яркіх партрэтаў. Кожны з іх аздоблены выявамі яркіх фруктаў, насякомых ды іншых прыгажосцяў для настрою.

Выстава «ДА.О» будзе прадстаўленая **ў галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а) да 1 лютага**.

**Generation.by**

## КАНЦЭРТЫ

### Madera Hard Blues

**21 і 22 студзеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — блюзавыя вечары. Іграе Madera Hard Blues. **Пачатак, адпаведна, а 20-й і а 18-й.**

### Адыс Абеба

**24 студзеня а 19-й у «Графіці»** — гомельскі гурт «Адыс Абеба». Іграюць яны рэгі.

### Рокаш

**27 студзеня а 19-й у «Графіці»** — хардавыя гурты **«Рокаш»**, **J-J Bingz**, **Unia**.



### Камоцкі ў ТБД

**31 студзеня ў Тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт Алеся Камоцкага «Прамінулыя сны». **Пачатак а 19-й.**

### ТБД — дваццаць гадоў

**21 студзеня ў Тэатры беларускай драматургіі (вул. Крапоткіна, 44)** адбудзецца юбілейны вечар «Нам 20 год». **Пачатак а 19-й.** Працягласць — 2 гадзіны.

## ВЫСТАВЫ

### Цацкі з валізы. Дзецям 1960—1980-х прысвячаецца…

**У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр. Незалежнасці, 25а) да 15 сакавіка** працуе выстава «Цацкі з валізы», прысвечаная дзецям 1960—1980 гадоў. Мінчукам і жыхарам іншых гарадоў прапанавана пашукаць у сябе дома ўлюбёныя цацкі — старых лялек, жаўнерыкаў, калейдаскопы, ваўчкі, чыгункі і іншыя скарбы свайго дзяцінства.

### Чароўны свет Закулісся

**У галерэі «Вільнюс» (вул. Каліноўскага, 55) да 8 лютага** працуе выстава «Чароўны свет Закулісся», на каторай прадстаўленыя бутафорыя, макеты і касцюмы, эскізы касцюмаў і дэкарацыяў, фотаздымкі спектакляў Тэатра юнага гледача…

### Мастацтва Узбікестана

**У Мастацкім музеі да 24 лютага** працуе выстава «Мастацтва Узбекістана». Самарканд, мастацтва каторага прадстаўленае на выставе, — адзін са старажытнейшых сярэднеазіяцкіх цэнтраў, багаты гандлёвы і рамесны цэнтр на «шаўковым шляху».

### Выстава да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна

**У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5) да 12 лютага** працуе выстава, прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. У рамках выставы адбудзецца прэзентацыя лічбавага запісу магнітафоннай стужкі з рабочым варыянтам сумеснай працы калектыва «Песняры» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна з групай New, Christie minstrels у студыі грамзапісу фірмы Columbia CBS у г. Нашвелі падчас гастроляў у ЗША 1976 г.

### Чароўныя ласкуточкі для сына і дачкі

**У Доме-музеі I з'езда РСДРП (пр.Незалежнасці, 31а) да 28 студзеня** працуе выстава «Чароўныя ласкуточкі для сына і дачкі». Наведвальнікаў выставы пацешыць разнастайнасць вырабаў, выкананых у ласкутнай тэхніцы на тэму Калядаў і Новага года…

### Калядны фэст

**У Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3) да 30 студзеня** працуе выстава «Калядны фэст». На выставачнай пляцоўцы прадстаўленыя творы мастакоў, выкананыя ў розных тэхніках, на зімовую ці калядную тэматыку.

### Фэст пейзажу, прысвечаны Міжнароднаму году лясоў

**У мастацкай галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі да 28 лютага** працуе выстава, прысвечаная Міжнароднаму году лясоў. Свае трапяткія адносіны да лесу, да жывой прыроды выказваюць мастакі ўжо не адно стагоддзе. І сёння гэтая цікавасць не знікла, а нават наадварот, набыла сучасныя формы і змест. З паяўленнем лічбавага фота, камп'ютарнай графікі гэтыя магчымасці значна пашырыліся, набылі новае гучанне. На выстаўцы гледачы змогуць пазнаёміцца з творамі Аляксандра Грышкевіча, Алеся Сушы, Ягора Батальёнка, Георгія Паплаўскага, Віктара Суглоба, Валерыя Вядрэнкі, Вадзіма Качана і многіх іншых.

### Каханне ды інш.

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Андрэя Скіцёва «Каханне ды інш.». Чалавек, чалавечыя пачуцці — гэта тое, што найперш хвалюе аўтара ў навакольным свеце. Гэтыя пачуцці можна разглядаць бясконца, бо яны маюць неабмежаваную колькасць адценняў. Сярод узгаданага мноства ёсць якасці, якія тычацца месца і часу. Падаецца, што «каханне ды інш.» у сённяшняга беларуса мае пэўныя асаблівасці параўнальна з іншымі часамі і народамі. Аўтар імкнецца адсачыць гэтыя асаблівасці і стварыць партрэт месціча, набліжаны да дакументальнага.

### Нам засталася спадчына…

**Да 30 студзеня ў Палацы мастацтва (вул.Казлова, 3)** працуе мастацкая выстава «Нам засталася спадчына…», якая аб'ядноўвае жывапісныя і графічныя працы, створаныя па матэрыялах пленэраў 2010 года, прысвечаных памяці мастакоў XIX стагоддзя: Івана Хруцкага, Яна Дамеля, Яна Лапацінскага.

### Узбагачаючы адно аднаго

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры «Узбагачаючы адно аднаго», прымеркаваная да юбілею прафесара Акадэміі мастацтваў Анатоля Арцімовіча. На выставе ўпершыню выстаўленыя станковыя творы А. Арцімовіча. Разам з творамі майстра прадстаўленая экспазіцыя творчых працаў яго вучняў і калег.

### Жыццё ў казках

**У Музеі гісторыі кіно (вул. Свярдлова, 4)** працуе персанальная юбілейная выстава эскізаў да анімацыйных фільмаў к/с «Беларусьфільм» розных гадоў «Жыццё ў казках», прымеркаваная да 75-годдзя патрыярха беларускай анімацыі, кінаапаратара Юрыя Мільтнера.

### Моды на Каляды

**У Нацыянальным гістарычным музеі (вул.К.Маркса, 12) да 2 лютага** працуе выстава дызайнерскага адзення. Куратар — Саша Варламаў.

### 12+

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі** працуе выстава «12+». На выставе прадстаўленыя творы 12 мастакоў. Выбар майстроў невыпадковы, паколькі галоўная мэта экспазіцыі — паказаць разнастайнасць творчых манер і стыляў. Прадстаўлены і розныя жанры: пейзажы (Ягор Батальёнак, Аляксандр Грышкевіч), асацыятыўныя палотны (Аляксандр Забаўчык), міфалагічныя карціны (Фёдар Ястраб, Уладзімір Кожух).

### Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі». Фотавыстава знаёміць з работамі вядомых і безыменных фатографаў другой паловы XIX — пачатку XX стст. Сярод іх — работы вядомага фатографа, аматара старажытнасцяў М.Ф.Кусцінскага, прафесійнага фатографа А.В. Сялецкага, цікавага і яркага фатографа, вядомага нумізмата Міхаіла Грэйма і іншых.

## ТЭАТРЫ

**19 студзеня**

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Оперы і балета** — «Шапэніяна». «Пахіта». «Трыстан і Ізольда»
**Горкага** — «Уяўны хворы»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»
**Купалаўскі** — «Хам»

**20 студзеня**

**Оперы і балета** — «Кармэн сюіта». Дывертысмент з балета «Шчаўкунок»
**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Горкага** — «Адзіны спадкаемца»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**21 студзеня**

**Музычны** — «Юнона і Авось»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Моладзевы** — «Бег на месцы»
**Горкага** — «Панна і смерць»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

**22 студзеня**

**Лялек** — «Пэпі Доўгаяпанчоха»
**Горкага** — «Эсфір»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя кахання»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**23 студзеня**

**Музычны** — «Мая жонка — ілгуння»
**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Горкага** — «Рускія вадэвілі»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

**24 студзеня**

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Купалаўскі** — «Тэатраманія»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»

**25 студзеня**

**Горкага** — «Эдып»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Горкага** — «Злоўлены сеткай»

**26 студзеня**

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Трошкі пяшчоты»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»
**Горкага** — «Утаймаванне наравістай»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

**27 студзеня**

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Горкага** — «Нінаўка»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

**28 студзеня**

**Лялек** — «Адвечная песня»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Горкага** — «Бег»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

**29 студзеня**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Горкага** — «Зоркі сёмага неба»
**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»
**Горкага** — «Сунічная паляна»
**Оперы і балета** — «Снягурка»

**30 студзеня**

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Горкага** — «Пане Каханку»
**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»

## КІНО

# Ведзьмы і рыцары

**Сезон ведзьмаў** (Season of the Witch)

ЗША, 2011, каляровы, 98 хв.

**Рэжысёр:** Дамінік Сена

**Ролі выконваюць:** Нікалас Кейдж, Рон Перлман, Клэр Фой, Стывен Кэмпбэл Мур, Крыстафер Лі, Стывен Грэм, Ульрых Томсэн

**Жанр:** Містычныя прыгоды

**Адзнака:** 7 (з 10)




Чатырнаццатае стагоддзе. Два рыцары мусяць даставіць у далёкі кляштар маладую ведзьму, якую абвінавачваюць у арганізацыі эпідэміі чумы. Дзяўчына выглядае анёлам, але героям прыйдзецца сутыкнуцца з самымі цёмнымі сіламі.

Карціна Дамініка Сены — ударныя містычныя прыгоды з закручаным сюжэтам і палахліваю атмасферай. У фільме ўсяго пакрыху. Сярэднявечча з крыжовымі паходамі і штурмам гарадоў, галодныя ваўкі, пошасці, ведзьмы і дэманы, годныя рыцары, спакушэнні і зацятыя бойкі.

Усе вядомыя складнікі працуюць на фільм. Дамінік Сена спраўна здымае папулярнае кіно («Угнаць за 60 секундаў» і «Пароль «Рыба-меч» — ягоныя стужкі). І хаця галоўны рыцар Нікалас Кейдж прасякнуты ўрачыста-зляканым гераізмам, з якім актор навязліва вандруе з карціны ў карціну, гэта фільму не замінае. Куды цікавейшы рыцар Рон Перлман — удала намякае на «Імя ружы» і свайго «Хэлбоя», а бязвінна-падступная ведзьма Клэр Фой — адкрыццё карціны.

Фільм усцешыць масавую публіку, а сцэна ў туманным лесе прымусіць адкласці ўбок чыпсы.

**Андрэй Расінскі**



# Музыка ў 2011-м

Якой яна будзе? Аналізуем музычныя набыткі і страты 2010-га.




Лявон Вольскі прэзентаваў «Белую яблыню грому» на вершы класікаў.

2010-ы музычны адзначыўся дзясяткамі канцэртаў замежных знакамітасцяў у Мінску. І калі мінулы год у айчыннай музыцы прайшоў пад знакам «Ляпіса Трубяцкога», дык сёлета «дзяжурным па краіне» быў Лявон Вольскі, завяршыўшы 2009 год выбуховым акустычным канцэртам N.R.M. пры аншлагу ў «Казе». Не менш удала прайшоў і электрычны канцэрт гурта ў лютым — публіка засумавала без улюбёнцаў. Праўда, больш энэрэмаўцы фанатаў ні разу не парадавалі.

Напярэдадні лютаўскага выступу Вольскі выклаў у інтэрнэце песню «Палітыка-паралітыка», якая выклікала бурлівае абмеркаванне. У ёй пяялася пра «змагароў», якім з Захаду «грошай ліецца рака» — фактычна, выказваўся пратэст супраць таго, каб усё, што ў краіне адбываецца, разглядалася праз прызму барацьбы між рэжымам і яго апанентамі. Шмат хто не чакаў такога ад аўтара аптымістычна-натхняльнага «Гадзючніка».

Праўда, праз некалькі месяцаў Вольскі — свядома ці не — яшчэ раз аддаў даніну «паралітыцы», напісаўшы на словы Уладзіміра Някляева песню «Гавары праўду». Аднак больш нічым прыхільнасці да аднайменнай грамадзянскай кампаніі не выявіў. І на мітынгах у падтрымку кандыдата Някляева не выступаў. Як і ў падтрымку іншых кандыдатаў. Чаму? Сёлета няма адзінага кандыдата, тлумачыць Вольскі, і прыхільнікі яго музыкі расцярушаныя.

Пасля трохгадовага перапынку на сцэну вярнуўся і «Крамбамбуля». У новым складзе гурт запісаў і выклаў у вольны доступ у інтэрнэце сінгл «Раз-два-тры, усе за стол!»

У пачатку года стартануў і супольны праект «Такога няма нідзе» з удзелам Уладзіміра Пугача, Русі, Віталя Артыста, Андрэя Такінданга, Ганны Хітрык. Рухавіком яго быў Вольскі. Музыкі запісалі па-беларуску песні ў стылістыцы і па матывах музыкі 1960-х гадоў.

Нельга не адзначыць удзелу Вольскага ў праекце радыё «Свабода» «Саўка ды Грышка». Яго злабадзённыя прыпеўкі ад імя лукашыста і апазіцыянера чапляюць старэйшае пакаленне. Таксама Лявон сыграў музыку ў беларускай стужцы «Дастыш фантастыш», для якой напісаў і песню. Удзельнічаў у фестывалях Be2gether, «Навальніца».

Але найбольшую ўвагу выклікаў праект Вольскага «Белая яблыня грому» на словы знакавых беларускіх паэтаў — ад Чачота да Барадуліна. З гэтай праграмай Вольскі прайшоў на дзяржтэлебачанне і збірае аншлагі на жывых канцэртах.

### Рокеры — у гарады, на вёску — дудары

Музычных фэстаў сёлета менш не стала. І хаця адны адмяняліся, іх месца займалі іншыя.

«Рок-каранацыя» сёлета не прынесла сенсацый. Дый набыла клубны фармат — прайшла ў «Рэактары». Адным з прэтэндэнтаў на галоўную рок-карону быў англамоўны олдскулавы гурт The Toobes. Яго ўдзельнікі набылі скандальную вядомасць, калі на ўручэнні музычнай прэміі сайта experty.by непрыхільна выказаліся пра беларускую мову. Рок-карону ж атрымаў гурт «Без білета».

Фестываль BelaMusic, які ў 2009 упершыню прайшоў пад Мінскам, сёлета не адбыўся. Спонсары не падтрымалі, хаця адзін з арганізатараў, Алег Хаменка, спадзяецца на вяртанне фэсту ў 2011-м. Не было і Be Free, які да гэтага ладзіўся тры гады ва Украіне. Планавалі ператварыць яго з вандроўнага ў стацыянарны, у Чарнігаве. Але чарнігаўскія чыноўнікі адмовілі. Адпіска была фармальнай — рокеры патопчуць траву ў парку. У кулуарах казалі пра намёк з боку беларускіх уладаў. Але ўжо налета Be Free пагадзіўся прыняць іншы ўкраінскі горад — Роўна.

Верагодна, апошні раз прайшло і «Амбасовішча», якое традыцыйна ладзілася ў рэзідэнцыі амерыканскага пасла ў Раўбічах. Пасольства палічыла нерэнтабельным надалей выкарыстоўваць рэзідэнцыю — праз зацяжны канфлікт з беларускім бокам пасла ЗША ў краіне няма, а колькасць працаўнікоў пасольства скарочана да мінімуму.

Затое пад Мінскам прайшоў фестываль «Паляна». Але ўражанне такое, нібыта яго зрабілі «разавым» спецыяльна пад «Ляпіс Трубяцкой». Гурт адмяніў сольны канцэрт у Мінску на карысць «Паляны», дзе адыграў дзвюхгадзінную праграму. Нават расійскаму «Рублю» Сяргея Шнурава далі ўдвая меней часу.

На транспамежным фестывалі Be2gether у літоўскіх Нарвелішках Беларусь сёлета прадстаўлялі Лявон Вольскі, Open Space, CherryVata, Akute. Be2gether наведаў і пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын. Раней афіцыйны Мінск стараўся быць на адлегласці ад такіх мерапрыемстваў.

«Рок за баброў», які ўжо другі год праходзіў пад Мінскам, працягнуў эвалюцыю. Пераймаючы «Басовішча», арганізаваў конкурс маладых музыкаў. Перамог дасыць сталі «Бан Жвірба» з Гомеля.

Са зменамі каторы год праходзіць і «Басовішча». Сёлета на фэсце не выступілі ні N.R.M., ні «Палац», ні «Крама». Затое ўпершыню заспявалі «Ляпіс Трубяцкой». А пераможцам абралі магілёўскі гурт Akute — трансфармаваныя «Глюкі».

Калі рокеры імкнуліся ў гарады ці стараліся асесці непадалёк ад іх, аматары старажытнай музыкі паехалі ў глыбінку. У дзясяты раз у музейным комплексе «Дудуткі» прайшоў «Дударскі фэст», а на Ашмяншчыне другі год запар ладзіўся «Гальшанскі замак».

«Ляпіс Трубяцкой» за лета аб'ехаў свет. Выступіў на венгерскім фестывалі Sziget. Быў канцэрт на галандскім фэсце Mundial. Разам з трыма канцэртамі ў Германіі, гэтыя выступы паспрыялі прасоўванню альбома гурта «Агітпоп», што выйшаў летам у Нямеччыне.

### «Саня останется с нами»

Свой адбітак на музычнае жыццё наклала і прэзідэнцкая кампанія. Брутальны панк-філосаф Міхей Насарогаў, дагэтуль вядомы вузкаму колу аматараў, прагрымеў на ўсю краіну. Яго гурт Rockerjoker праспяваў пад гітарку і баян песню «Саня». Сцёбную — пра тое, што «Саня останется с нами» і «всё будет ок». Ідэолагі гумару не зразумелі, песня пайшла па радыёстанцыях, а тэлеканал АНТ зняў на яе кліп.

Rockerjoker аспрэчваюць, што іх Саня мае прататып у беларускай палітыцы. Што ім застаецца рабіць?

А вось аўтарка песні «Наш прэзідэнт», педагог вакалу дзіцячага ансамбля «Зорачка» пры Ансамблі Узброеных сілаў, не хавае, каму прысвечаная песня. Па ступені вернападданасці гэтая песня далёка абыходзіць «Слухай бацьку» «Сяброў». Плюс яна праспяваная дзіцячым калектывам. Ці можна гэта расцэньваць як выкарыстанне дзяцей у палітычнай агітацыі?

А вось гурт J:морс, які ў 2006-м не выйшаў на сцэну «Рок-каранацыі», бо ў зале быў Мілінкевіч, сёлета адмовіўся выступіць на канцэрце ў падтрымку Лукашэнкі «Беларусь — гэта мы». У адказ чыноўнікі адмянілі вялікі канцэрт гурта ў мінскім Палацы спорту — сцэна занятая. Але пасля шуму, які падняўся ў прэсе, канцэрт усё-такі дазволілі. Праўда, з эфіраў дзяржрадыё і ТБ гурт знялі.

### ...і іншыя кокеры

Фактычна перастаў існаваць магілёўскі гурт «Маўзер». Спачатку яго пакінулі басіст і бубнач, у выніку чаго сарваўся электрычны канцэрт у Мінску. А пасля сышоў і гітарыст. Ян Маўзер пераехаў у Мінск, каб сабраць новы склад.

Яшчэ большай нечаканасцю стаўся развал каманды «Дзецідзяцей». Выпусціўшы беларускамоўны альбом «Рух», музыкі пайшлі ў бестэрміновы адпачынак, з якога не вярнуліся. А Ганна Хітрык заснавала новы праект «Сундук».

Да сёлетніх стратаў можна аднесці «перафарматаванне» беларускага тэлеканала «Першы музычны». Увага на ім аддавалася расійскай і заходняй поп-музыцы, але нярэдкімі былі і навіны аб беларускіх музыках. Канал пераназвалі ў «ВТВ», на якім цяпер транслююць расійскія серыялы.

У 2010-м Мінск трапіў у гастрольныя графікі сусветнавядомых музыкаў, бо з'явілася адпаведная такім канцэртам пляцоўка — «Мінск-Арэна». У беларускай сталіцы выступілі Джо Кокер, Стынг, Limp Bizkit, Элтан Джон... Нават «жахлівы» Rammstein. Канцэрт апошняга спрабаваў адмяніць старшыня Грамадскай рады па маральнасці Мікалай Чаргінец. Генерал, а па сумяшчальніцтве і старшыня лукашэнкаўскага саюза пісьменнікаў Чаргінец наракаў на амаральнасць творчасці немцаў. Сарваць прыезд Rammstein яму не ўдалося, а вось рэклама выйшла добрая.

На «Еўрабачанні» беларускі гурт «3+2» выйшаў у фінал і заняў там перадапошняе, 24-е месца. Праект быў занадта іміджавым: для еўрапейскага конкурсу абралі англамоўную кампазіцыю, напісаную расейцам Максам Фадзеевым. Хаця спачатку «3+2» меркавалі ехаць з беларускамоўнай песняй на словы Віктара Шніпа «Анёлы». Не зраслося.

На дзіцячым «Еўрабачанні», што праходзіла ў Мінску, перамог армянскі выканаўца. Беларус Даніла Казлоў быў толькі пятым. Ніякіх скандалаў і піяру, як з леташнім «Чароўным трусікам», а вынік вышэйшы.

### Пазітывы

Тэндэнцыя 2010-га — у першым паўгоддзі ўпершыню колькасць беларускамоўных альбомаў пераўзышла колькасць расійскамоўных. Прынамсі, па выніках маніторынгу сайта experty.by. Варта адзначыць і заяву міністра культуры Паўла Латушкі, які выступіў супраць выкарыстання плюсавай фанаграмы (калі на фанаграме запісаны голас). Міністр адзначыў, што 60—70% песень на беларускай эстрадзе спяваецца «пад фанеру».

### Страта года

...Год, можа, так і скончыўся б у цэлым на пазітыве. Але ў снежні нечакана памерла Вольга Самусік. Рок-княжёўна 2007 года, 25-гадовая спявачка запомнілася працай у гуртах Zygimont Vaza і «Тарпач».

**Сяргей Макарэвіч**

---

## Сапраўдная беларуская кухня

### Жур з вэнджанай грудзінкай

200 г свіных костачак, 1 морква, 1 корань пятрушкі, 250 г вэнджанай свіной грудзінкі (ці свіной каўбасы), 50 г смальцу, некалькі зубкоў часнаку.

Для закваскі: 400 г жытняй пытляванай або аўсянай мукі, 200 г вады, некалькі скарынак чорнага хлеба, цэлыя зубкі часнаку (па смаку).

Жур — старадаўні беларускі суп, які згадваецца ў паэме «Тарас на Парнасе» і гатуецца на аснове закваскі з мукі, якая і называецца журам. Гэты суп таксама папулярны ў польскай кухні.

Прыгатаваць закваску: у шкляным ці керамічным посудзе развесці цёплай кіпячонай вадой муку, дадаць хлеб і часнок, добра перамяшаць, пакінуць у цёплым месцы на 3—4 дні. Кожны дзень акуратна перамешваць закваску. Калі закваска набудзе прыемны кіслы смак і своеасаблівы водар — працадзіць і выкарыстаць для прыгатавання супу-журу. (Пры патрэбе закваску можна захоўваць на працягу некалькіх дзён у халодным месцы).

Са свіных костачак і карэння зварыць юшку, працадзіць, дадаць жур, пасаліць, пракіпяціць. Грудзінку (ці каўбасу) нарэзаць кубікамі, падсмажыць на смальцы, дадаць у суп. Дадаць у суп таксама зваранае ўкрутую яйка (парэзанае) і расцёрты з соллю часнок. Яшчэ раз пракіпяціць.

**НБ**

---

## Прыватныя абвесткі

### БЯСПЛАТНЫЯ ЗАНЯТКІ

**Бясплатныя заняткі па беларускай мове, літаратуры, гісторыі** для вучняў 7-х, 8-х, 9-х класаў сярэдняй школы з вопытнымі выкладчыкамі ў Таварыстве беларускай мовы. Арганізацыйны сход адбудзецца 4 лютага ў 17 гадзін у памяшканні ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13 (праезд да ст. метро «Плошча Перамогі»). Даведкі: (029) 639-27-15.

### САЛІДАРНАСЦЬ

**Рэчы з Плошчы шукаюць гаспадароў:**

— ключы ад машыны на імя Сяргеева В.П.;

— капюшон ад зялёнай курткі і скураная кепка, якія дбайная жанчына знайшла пад ялінкамі на Плошчы пасля разгону;

— ключы ў скураным футарале;

— Беларуская Біблія і Евангелле з запіскай, што іх трэба вярнуць уладальніку. Уладальнік будзе ідэнтыфікаваны па е-мэйл-адрасе, пакінутым у кнізе.

Звяртайцеся: (017) 284-50-12, Машэрава, 8 (ад 10 да 20-й).

### СЯБРОЎСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ

**Экскурсія з Гродна** «На калядкі ў Заслаўе!» пройдзе 22 студзеня. У праграме: падарожная інфармацыя пра Скідзель, в. Мількаўшчына — радавое гняздо Э. Ажэшкі, Шчучын, Васілішкі — радзіму Ч. Немана, Мураванку — царкву-крэпасць, Ліду, Валожын, Ракаў. Экскурсія па Заслаўі, наведванне гісторыка-культурнага музея-запаведніка, тэатралізаваная экскурсія «Каляды». Даведкі праз т.: (0152) 96-91-19, (029) 331-18-83; e-mail: travel@mercana.by.

**Шукаем аднадумцаў** для сяброўскага падарожжа 23 студзеня па маршруце: Мінск — Віцебск — Мінск. Т.: 262-73-43 (029) 111-73-32.

Шукаю беларускамоўнага настаўніка па фізіцы для вучаніцы 6-га класа. Т.: (029) 676-54-60.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

---

## Кемікі

1) Люда напісала на лісточку лік 98 і прапанавала брату паменшыць яго на 12, не робячы ніякіх дзеянняў. Брат здагадаўся. Як гэта ён зрабіў?

2) Я задумала лік, памножыла яго на 2, дабавіла 20, атрымала 38. Які лік я задумала?

**Сабрала Валянціна Карнялюк.**

**Адказы глядзі на старонцы 16.**




**Данік Саннікаў чакае маму і тату з турмы, а дзеда — з бальніцы. Яны любяць цябе, Данік!**




**У мястэчку Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці 13 студзеня, на Шчодры вечар па старым стылі, ладзяць унікальны нацыянальны абрад «Цары». Удзельнікі — маладыя мужчыны («цары») — апранаюць маляўнічыя касцюмы. У Шчодры вечар вясёлая група праходзіць па вёсцы, наведваючы хаты сялян, дзе разыгрываюцца сцэнкі драмы пра цара Максіміляна. Абрад настолькі ўнікальны, што ЮНЭСКА занесла яго ў спісы Сусветнай культурнай спадчыны.**




**«За экстрэмізм» улады закрылі «Аўтарадыё». Гутарка з Юрыем Базанам — старонка 6.**

## Анекдоты

У РУУС па справе аб беспарадках выклікалі помнік Леніну.
Ён хоць і стаяў задам, але ўсё адно важны як сведка. І ёсць звесткі, што яго таксама фінансавалі немцы.
Ленін ехаць без позвы адмовіўся. Не выключана, што яго даставяць прымусова. Пастаўлена задача таксама адкатаць яму пальчыкі.

* * *

Ці праўда, што экс-прэзідэнт Туніса Зін Абідын Бэн Алі будзе жыць па суседстве з экс-прэзідэнтам Кіргізіі Курманбекам Бакіевым?

* * *

За апошні тыдзень па колькасці згадак КДБ у сваіх матэрыялах незалежныя журналісты пераўзышлі КДБ. А КДБ, у сваю чаргу, пераўзышоў незалежных журналістаў па колькасці згадак пра іх у сваіх матэрыялах.

* * *

Цікава, БТ таксама зачыняць за экстрэмізм? Яны ж паказвалі выступы кандыдатаў, дзе гучалі заклікі ісці на Плошчу.

* * *

Ведаеце, чаму ў Швецыі паліцэйскі патруль заўсёды складаецца з мужчыны і жанчыны? Каб не было сэксуальных дамаганняў на працы.

* * *

Новы год, маладосць... Ты ўжо разумееш, што Дзед Мароз не прыйдзе, але на тое, што з'явіцца Снягурка, яшчэ спадзяешся...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Ад нас выязджае шмат людскай сілы ў ЗША, дзе заработак у 5—10 разоў большы ад нашага.** Там нашы беларусы, не прывыкшыя да раскошнага жыцця, за 2—3 гады ўжо складаюць капітал і варочаюцца да сваіх родных вёсак з «амерыканскімі грашыма».

**«НН». №3.1911**

**«Наша свабода» надрукавала медычнае заключэнне пра стан псіхічнага здароўя Лукашэнкі, падрыхтаванае бабруйскім псіхіятрам Змітром Шчыгельскім.** Шчыгельскі выстаўляе дыягназ «памяркоўная мазаічная псіхапатыя з перавагаю рысаў параноідальнага і дысацыяльнага забурэнняў асобы», якая вядзе да перабольшанай прагі ўлады і схільнасці да масавага тэрору. Чалавека з такім дыягназам прызналі б нягодным да вайсковае службы. Сам Шчыгельскі ніколі Лукашэнкі не бачыў, а грунтаваўся на сведчаннях СМІ. Сваім артыкулам ён відавочна парушае нормы медычнае этыкі. Апраўдваецца ён тым, што знаходжанне такога чалавека на высокай пасадзе наносіць вялікую шкоду краіне.

**«НН». №3. 2001**

**Адказы да старонкі 15:**
1) Перавярнуў ліст. 2) 9.

# Позва на допыт пра Плошчу — ні пячаткі, ні імя адрасата


ПОВЕСТКА №
от «14» 01 2011 г.
явиться «14» января 2011 г. в 10.00 ч.
(наименование органа внутренних дел)
, ул.
каб. № 114 к
(должность, фамилия и инициалы)
, в качестве свидетеля
(свидетеля, потерпевшего или его представителя, эксперта, специалиста, понятого, переводчика, обвиняемого, подозреваемого и т. д.)
...мо иметь паспорт или документ, его заменяющий.
(инициалы, фамилия)
ПОСЛЕДСТВИЯ НЕЯВКИ:


ОТМЕТКА О ЯВКЕ

## Ці пайшлі б Вы, атрымаўшы такое «запрашэнне»?

Чытач «Нашай Нівы» даслаў у Рэдакцыю фотаздымкі перададзенай яму позвы. Праваахоўныя органы запрашаюць яго паразмаўляць наконт падзей Плошчы-2010, удзельнікам якой ён быў. Позва была пакінута членам ягосям'і з настойлівай просьбай перадаць яе нашаму чытачу.

Позва можа сказаць новае слова ў гісторыі беларускага справаводства.

На пярэднім баку позвы напісаны яе нумар (зарэтушаваны), адрас установы, у якую трэба прыйсці, прозвішча следчага і ягоны подпіс. Відавочна бракуе пячаткі аддзялення ўнутраных спраў. Яна знайшлася на адваротным баку. Праўда, чамусьці замест гербавай пячаткі стаіць штамп... «Для пакетаў».

Самае смешнае, што позва ананімная! Графы «Кому», «Куда» і «Адрес отправителя» абсалютна пустыя.

Ці пайшлі б Вы, атрымаўшы такое «запрашэнне»?

**Віталь Несцераў**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 6700.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 18.01.2011.
Замова № 258.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11003